# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 3(98) Сакавік 2002 March Год выд. 10.




84 гады таму назад у сталіцы Беларусі, Менску, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі векапомным актам — Трэцяй Устаноўчай Граматай праклямавала незалежнасьць Беларусі...

## 25-га САКАВІКА 1918 — 2002

## Вітаем з вялікім Сакавіком!




## Зімовыя Алімпійскія Гульні - 2002

Якуб ФРЫСТАЙ (Наша Свабода)

*Прайшла цырымонія афіцыйнага закрыцця Алімпіяды, якая шмат чым парадавала і здзівіла беларусаў.*

Нас парадавала, як выглядалі беларускія спартоўцы на снезе і лёдзе блізу Салёнага возера ў штаце Юта, хоць наша каманда не выканала пажаданняў кіраўніка Нацыянальнага алімпійскага камітэту і усёй краіны Аляксандра Лукашэнкі ўзяць аж 5 медалёў і нават не ажыццявіла планаў Міністэрства спорту і турызму на тры медалі. У нашай скарбонцы адзін бронзавы медаль – у фрыстайліста Аляксея Грышына. Гэта горш за Алімпіяду у Нагана ў 1998 годзе, дзе былі дзве «бронзы», і горш за Лілехамер 1994-га, дзе былі два «срэбры».

Мы задаволеныя не толькі таму, што галоўны алімпійскі прынцып – не перамагаць, а ўдзельнічаць. Па пунктах, якія даюцца ў неафіцыйным заліку за месцы з першага па восьмае, беларусы выступілі значна лепш, чым на мінулай Алімпіядзе ў Японіі. А апынуцца ў «васьмёрцы» – гэта яшчэ які гонар, асабліва калі параўнаць мізэрныя грошы, што абарачаюцца ў беларускім спорце, з мільёнамі даляраў на развіццё зімовых відаў спорту ў заможных краінах свету. А сенсацыйная перамога нашых хакеістаў над шведамі, можа, і на эквівалент залатога медалю пацягне. Цяпер, трэба меркаваць, ударныя будоўлі лядовых палацаў па гарадах Беларусі разгарнуцца з новай сілай. Праўда, 1:8 ад фінаў і амерыканцаў, 1:7 у паўфінале ад канадцаў і 2:7 у матчы за трэцяе месца ад расейцаў трохі наводзяць на думкі пра «халяву».

Найгоршымі ж вынікамі Алімпіяды-2002 для Беларусі стаў допінгавы скандал вакол нашай шорт-трэкаўкі Юліі Паўловіч, высылка з Солт-Лэйк-Сіці шэфа беларускай місіі Яраслава Барычкі, а следам – заява Міжнароднага алімпійскага камітэту аб прыпыненні фінансавай дапамогі беларускаму НАК.

Затое беларусы, нягледзячы на адзін заваяваны «метал», не кінуліся ў істэрыку, як расійская зборная, якая амаль у кожным відзе спорту падавала пратэсты супраць неаб'ектыўнага судзейства і змовы супраць Расіі. Абураліся не




толькі тамтэйшыя спартоўцы, але і дэпутаты Дзярждумы і нават Аляксій II. Расійцы, відаць, не могуць перажыць, што яны не на першых ролях на зімовай Алімпіядзе, як тое было за часоў СССР.





## Дзень Волі ў Менску пройдзе несанкцыявана

Сёлета мерапрыемствы, прымеркаваныя да Дня Волі 25-га Сакавіка, пройдуць несанкцыянавана. Кіраўнікі аргкамітэту заяўляюць, што на ускладаньне кветак да помнікаў Янку Капалу і Якубу Коласу санкцыі ўладаў не патрабуецца.

Сёлетнія 84-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі прыпалі на 120-годзьдзе Янкі Купалы й Якуба Коласа, што перадвызначыла сцэнар правядзеньня сьвяткаваньняў Дня Волі.

На першым паседжаньні аргкамітэту, вырашылі, што сьвяткаваньні Дня Волі адбудуцца ў нядзелю 24-га сакавіка. Спачатку ўдзельнікі а 12-й гадзіне ўскладуць кветкі да помніка Янку Купалу ў Купалаўскім сквэры, а потым рушаць на плошчу Якуба Коласа, да помніка песьняру, дзе таксама адбудзецца ўрачыстае ўскладаньне кветак. Арганізатары асабліва падкрэсьліваюць, што там жа будзе выкананы гімн Беларусі "Магутны Божа". Мяркуецца, што ў Купалаўскім сквэры ў гэты ж дзень адбудзецца рок-канцэрт…

Анатоль Грыцкевіч паведаміў, што ў аргкамітэт сьвяткаваньня Дня Волі ўвайшлі каля 50 чалавек. Гэта пераважна прадстаўнікі партыяў і арганізацыяў, што ўваходзяць у Каардынацыйную раду дэмакратычных сілаў.

Трэба ведаць, што цяперашнія ўлады Беларусі ня лічаць абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе сьвятам. Некалькі гадоў запар дэманстрацыі апазыцыі на 25-га Сакавіка канчаліся масавымі затрыманьнямі.





**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Наконт Гімна: чаму яго няма.

І які ён неўзабаве будзе...

Зацверджана камісія па стварэнні Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь і вызначаны тэрмін увядзення яго ў штодзённы рытуал (3 ліпеня г.г.). У друку паяўляюцца публікацыі з высвятленнем прычын, чаму Гімн не быў прыняты раней.

Восенню 1991 года, пасля таго, як была канстытуцыйна замацавана Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі, дэмакратычнае крыло Вярхоўнага Савета (перш за ўсё -- дэпутаты ад БНФ) натуральна заспяшаліся з ініцыятывай правесці на сесіі ВС законы аб нацыянальных дзяржаўных сімвалах -- аб Гербе, аб Сцягу і аб Гімне. Аб назвах дзяржавы і сталіцы -- таксама.

Праекты законаў было даручана падрыхтаваць (і затым вынесці на пасяджэнне сесіі) Камісіі па адукацыі, культуры, і захаванні гістарычнай спадчыны, якою мне давялося на працягу пяці гадоў кіраваць. Новы Герб (Пагоня) і новы Сцяг (бел-чырвона-белы), хоць з неймавернымі намаганнямі (быў на сесіі дакладчыкам па гэтых законапраектах і таму добра помню), з перавагай усяго на адзін голас, былі 19 верасня прынятыя. Гістарычная назва сталіцы Менск не прайшла: бальшыня дэпутатаў убачыла ў літары е беларускі нацыяналізм.

Што ж датычыць Гімна -- тут шпарка-хутка зрабіць было немагчыма, бо яго не выставіш на агляд, як былі выстаўлены ў фае Дома ўрада макеты Герба і Сцяга. Калі б нават нейкая гатовая добрая песня была прапанавана на Гімн, дык жа трэба яе ў зале пасяджэнняў сесіі агучыць, прычым -- у харавым, сімфанічным і духавым выкананні. Абавязкова. Іншага шляху няма.

Таму Вярхоўны Савет даручыў той жа Камісіі заняцца пытаннем падрыхтоўкі новага Дзяржаўнага гімна, а менавіта: ці прапанаваць якуюнебудзь з патрыятычных песень даўно вядомых, ці аб'явіць конкурс на стварэнне новага твора, які адпавядаў бы патрабаванням жанра і быў бы прыняты ў якасці Гімна. Было створана журы для правядзення конкурсу -- на чале са старшынёй Камісіі па адукацыі і культуры. У журы ўвайшлі аўтарытэтныя ў літаратуры і музычнай культуры людзі -- паэты, кампазітары, дырыжоры, музыказнаўцы і літаратуразнаўцы.

Працу было вырашана пачаць з разгляду і праслухоўвання тых вядомых песень, якія ў друку і ў лістах у Вярхоўны Савет многімі рэкамэндаваліся на Гімн: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (муз. М.Тэраўскага, сл. М.Краўцова), "Не загаснуць зоркі ў небе" (муз. М.Янчука, сл. Я.Купалы), "Пагоня" (муз. М.Шчаглова-Куліковіча, сл. М.Багдановіча), "Магутны Божа" (муз. М.Равенскага, сл. Н.Арсенневай) і адна з мелодый старадаўняга "Полацкага сшытка".

Духавы аркестр развучыў і выканаў для журы гэтыя мелодыі. Усе музыкі (а іх у журы была пераважная большасць) рашуча іх адхілілі як непрыдатныя. Асабіста я быў вельмі засмучаны, што не прайшла песня "Магутны Божа", якую я і тады, і цяпер лічу сапраўдным нацыянальным Гімнам. Ну, але што ж рабіць? Усе музыкі -- катэгарычна супраць. Ды і некаторыя паэты таксама. (Пазней высвятлілася, што яны хацелі злавіць птушку шчасця самі.)

Аб'явілі конкурс на тэкст і на музыку Гімна. Паступіла больш сотні тэкстаў і, мабыць, з паўсотні мелодый. Прачыталі ўсе вершы, праслухалі ўсе мелодыі. Як і трэба было чакаць -- ніводзін твор на Гімн не цягнуў, хоць многія мелодыі былі досыць цікавыя, эмацыйна выразныя. Тэксты ж усе былі слабыя, а то і зусім бездапаможныя. Так безвынікова завяршыўся і другі этап конкурсу. Журы прыняло рашэнне: аб'явіць конкурс на музыку да якога-небудзь выдатнага, шырока вядомага верша з нашай класічнай паэзіі. Гэта была мая ідэя, я ж сам шукаў і тэкст. Спыніліся на вершы "Маладая Беларусь" Янкі Купалы: вельмі адпавядаў яго змест і дух патрыятычна-адраджэнскаму настрою прагрэсыўных колаў грамадскасці. Асабліва яго апошняя, заключная страфа:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!

З 12 строф верша для Гімна былі выбраны 4 -- апошняя, працытаваная вышэй, прапанавана ў якасці прыпеву. Прайшоў немалы час, падвялі вынікі. Паступіла каля 30 прафесійных і каля 60 мелодый самадзейных кампазітараў. Журы праслухала ўсе дасланыя песні вельмі ўважліва. Многія з іх, несумненна, заслугоўвалі добрага слова, некаторыя, на маю думку, былі проста выдатныя. З усіх добрых і выдатных выбралі найлепшую -- песню А.В.Багатырова і рэкамэндавалі яе Вярхоўнаму Савету і Кабінету міністраў у якасці Гімна.

Пасля чаго журы, натуральна, склала з сябе паўнамоцтвы. Але Міністэрства культуры нават не арганізавала ўсенароднага праслухоўвання гэтай песні ў выкананні хору, сімфанічнага і духавога аркестраў. Чаму? Таму што тым часам ішоў 1994 год, адбыліся прэзідэнцкія выбары, відавочна абазначыўся адкат назад, курс на рэванш. Стала ясна, што нават і песня на знакаміты хрэстаматыйны верш Купалы не пройдзе. Ідэя не тая! Дух не той! Дух нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння. А "мы вам зараз пакажам адраджэнне! Чакайце яшчэ крыху -- пабачыце, дзе будзе і ваша "Пагоня" і ваш бел-чырвона-белы сцяг!.."

У траўні 1995-га -- пабачылі. Увесь свет пабачыў, як рвалі на матузы беларускі нацыянальны Сцяг і скідалі з франтону беларускі нацыянальны Герб. За месяц да гэтага, а менавіта 20 красавіка 1995 года, я вынес на абмеркаванне Камісіі, якой кіраваў, праект пастановы аб Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь.

Пастанова была прынята з моцным перакананнем у справядлівасці справы, якую робім, хоць і з вельмі драматычным пачуццём. Яна складалася з трох пунктаў. "1. Лічыць, што для Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь у вышэйшай ступені падыходзіць песня М.Равенскага на верш Н. Арсенневай "Магутны Божа". 2. Для азнаямлення насельніцтва Рэспублікі Беларусь з названым творам М.Равенскага і Н.Арсенневай (каб яно магло выказаць сваю думку), прасіць Кабінет міністраў забяспечыць на працягу бліжэйшых трох месяцаў штодзённую трансляцыю гэтай песні па рэспубліканскім радыё ў харавым выкананні ў зручны для праслухоўвання ранішні час. 3. Унесці пытанне аб новым Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь ("Магутны Божа", верш Н.Арсенневай, музыка М.Равенскага) на наступную сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь".

28 красавіка Пастанова была апублікавана на старонках газеты "Літаратура і мастацтва" -- разам з вершам Арсенневай і маім артыкулам у абгрунтаванне такога рашэння Камісіі. Як чытач ужо здагадаўся, Пастанову аб Гімне чарговая сесія ВС не разглядала. Бальшыні дэпутатаў было ўжо не да Гімна -- ужо трымцелі-зáміралі, каб якуюнебудзь пасаду атрымаць у начальніка дзяржавы. Пан начальнік ужо загадаў вярнуць народу стары сцяг і стары герб (трошкі падмаляваны), а пра гімн няйначай як забыўся. Музыка гэнага колішняга гучыць -- ну і хай гучыць.

Можа, іменна таму ўжо колькі разоў выказвалася публічна шкадаванне, што тады, да лета 1994-га, не быў прыняты Гімн. Людзі, відаць, думаюць, што вось калі б, тады прынялі -- усё было б, як трэба. І па сёння ў нас быў бы той чалавечны Гімн. Звышнаіўнасць, прабачце. З Гімнам было б тое самае, што і з Гербам Пагоня і з бел-чырвонабелым Сцягам. Прычым з Гімнам расправіліся б у першую чаргу. Бо Гімн для ворагаў беларушчыны быў бы непараўнана страшней, чым Герб і Сцяг. Бо, па-першае, Гімнам і пачынаўся б і заканчваўся кожны божы дзень -- як малітвай у набожнага чалавека; яго б двойчы штодзённа слухалі, і ён напамінаў бы пра Вялікае, Святое, Найдаражэйшае ў свеце; а па-другое, гімн -- гэта песня, а "песні -- гэта адзінае наша багацце, таму што можна ўсё заглушыць, акрамя голасу сэрца" (Леся Украінка). Вядома ж, вялікая ўкраінка мела на ўвазе сапраўдныя, цудоўныя, чалавечныя песні, у якіх -- душа народа, а не какафонію і пустату, што сёння зранку да ночы запаўняе эфір.

Прайшлі гады. І вось навіна: скора будзе не толькі музыка, але і тэкст. Будзе цэласны, нераспалавінены гімн. Не сумняваюся, што будзе. Хутчэй за ўсё пад старую мелодыю Н. Сакалоўскага нехта падгоніць новы тэкст. А можа, і зусім новая песня стане гімнам. У прынцыпе -- чаму ж і не? Іншая рэч -- якая гэта будзе песня. Ці захочуць пад яе ўставаць законапаслухмяныя грамадзяне? А тым больш -- ці захочуць спяваць яе? Ці не будзе яна такая ж, як і наша сённяшняя дзяржава? Бо нацыянальны гімн павінен мець у аснове ідэю і пачуццё, якія яднаюць і згуртоўваюць увесь народ, нацыю, якія лучаць мільёны душ у адным свяшчэнным парыве. Але тыя, што гімн заказалі, -- хіба яны дбаюць пра адзінства нацыі? Наадварот -- ужо колькі часу яны робяць усё, каб нацыю раскалоць. І маюць поспех. У нас няма кансалідацыі народа на грунце беларускай нацыянальнай ідэі. Няма пачуцця, што ўсе мы, грамадзяне Беларусі, аб'яднаны адзінай воляй -- быць гаспадарамі ў сваім уласным доме, у сваёй суверэннай, незалежнай, свабоднай, дэмакратычнай дзяржаве. Няма належнай нацыянальнай самасвядомасці, без чаго ніякі народ ня можа разлічваць на гістарычную будучыню. Няма разумення, што Бог даў нам, беларусам, вялікую, чароўна прыгожую, незвычайна багатую мову, без якое не можа развівацца нацыянальная культура і духоўнасць. Нас адолела раўнадушнасць да свайго лёсу -- іначай бы мы не цярпелі тое, што цярпім.

Які нацыянальны гімн можа быць пры антынацыянальным рэжыме?

P.S. На тэму гімна РБ нядаўна выступіла газета "Наша ніва" (за 1 лютага г.г.). І паведаміла чытачам (цытую): "Як намякаюць некаторыя апытаныя намі ў сённяшнім нумары, прыняць гімн зашкодзілі амбіцыі Ніла Гілевіча, які прапаноўваў свой варыянт гімна". На гэта магу сказаць толькі адно: хлусня і паклёп. Бог сведка! Я не толькі не прапаноўваў нейкі свой верш ні ў журы, ні каму з кампазітараў, але мне і ў галаву не прыходзіла такая "амбіцыя". Я вельмі хацеў, каб гімнам стала любімая ў народзе песня з вялікай і драматычнай біяграфіяй -- гэта мой прынцыповы падыход да выбару і прыняцця нацыянальнага гімна. Такой бачыў праз увесь час толькі песню "Магутны Божа".

**Ніл ГІЛЕВІЧ** (Н. В.)

==========================================

# Інтэгратары не сьпяшаюцца

*Рознагалосьсі сярод распрацоўшчыкаў "канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы" сьведчаць аб крызысе беларуска-расейскай інтэграцыі*

Ледзь ня год таму, 2 красавіка, Лукашэнка і Пуцін афіцыйна заявілі аб неабходнасьці ўтварыць працоўную групу па падрыхтоўцы праекту "канстытуцыйнага акту саюзу Беларусі й Расеі". Група была створана ў кастрычніку, а яе першае паседжаньне адбылося толькі 14-га студзеня. Мяркуючы па такіх тэмпах, намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай Адміністрацыі Леанід Козік упэўнены, што "канстытуцыйнага акту ня будзе і ў красавіку, траўні, чэрвені".

Зрэшты, праектаў канстытуцыйнага акту, зводьшага расейскага аўтарства, пры жаданьні можна знайсьці зь дзясятак. На сумесным паседжаньні беларускі бок гатовы разгледзець толькі тры зь іх. Яшчэ адзін дасланы афіцыйна праект разглядацца наагул ня будзе. Тым ня менш менавіта ён (дарэчы, яго аўтар невядомы) вельмі добра характарызуе жаданьні расейскіх інтэгратараў. Імі прадугледжваецца, што пасаду кіраўніка саюзнай дзяржавы можа займаць толькі расейскі прэзыдэнт. Выкананьне такога праекту прывяло б да зьмены канстытуцыйнага ладу Беларусі і яе ўваходжаньня ў склад Расеі.

Наўрад ці могуць задаволіць беларускія ўлады і

іншыя два прарасейскія варыянты акту. Першы зь іх распрацаваны нібыта парлямэнцкім сходам СБР, аднак беларускія дэпутаты ў ягонай распрацоўцы амаль ня ўдзельнічалі. У прыватнасьці, летась на закрытым пасяджэньні палаты прадстаўнікоў, дэпутаты Архіпаў і Шпілеўскі скардзіліся менавіта на гэтую акалічнасьць. Сам праект уяўляе сабой даволі аб'ёмісты дакумэнт, што збольшага дублюе дамову аб утварэньні саюзнай дзяржавы.

Яшчэ больш нэгатыўна беларускі бок успрымае праект пастаяннага камітэту, які называюць не інакш як "барадзінскім". Паводле яго, саюз мусіць быць дзяржаўным аб'яднаньнем канфэдэрацыйнага тыпу, якое паступова ператворыцца ў новую фэдэрацыю. Аўтары прапануюць тры варыянты кіраваньня дзяржавай. У першым выпадку сумесна могуць існаваць пасады прэзыдэнта і віцэ-прэзыдэнта, якія замацоўваюцца за кіраўнікамі Расеі і Беларусі. У другім — прэзыдэнт зьмяняецца віцэ-прэзыдэнтам кожныя два гады. У трэцім варыянце галоўным органам саюзнай дзяржавы павінна стаць Найвышэйшая дзяржаўная рада, у склад якога ўваходзяць кіраўнікі дзяржаў, урадаў і палатаў парлямэнту. Нават дэпутатка Натальля Машэрава, адна з актыўных удзельніц інтэграцыйных працэсаў, аднойчы ня вытрымала й назвала праекты парлямэнцкага сходу і Барадзіна "ашуканствам".

Яшчэ больш выразна аб стаўленьні ўладаў Беларусі да расейскіх праектаў сьведчыць выказваньне старшыні беларускай групы па распрацоўцы Канстытуцыйнага акту Козіка. На нядаўняй прэсавай канфэрэнцыі ён заявіў: "Я не магу гэта назваць дакумэнтам" — і рэзка назваў гэтыя варыянты "фількінымі граматамі".

Праект беларускага боку, распрацаваны ў прэзыдэнцкай Адміністрацыі, мае назву "Прынцыпы пабудовы канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы". Козік ня вельмі ахвотна казаў пра ягоны зьмест, заявіўшы толькі, што для беларускага боку вельмі важна, каб акт адпавядаў міжнароднаму праву і дамове аб саюзнай дзяржаве.

Асноўным спрэчным момантам застаецца пытаньне кіраўніцтва новым утварэньнем. Сёньня Лукашэнку задавальне стан рэчаў: як-ніяк, ён — старшыня дзяржрады саюзнай дзяржавы. Таму нічыйны варыянт акту, калі пытаньне кіраўніцтва вырашыцца на іспых сёньня дамоўленасьцях, яго можа задаволіць. Пуцін наўрад ці будзе абцяжарваць сябе фармальнымі клопатамі сама меней цягам яшчэ аднаго прэзыдэнцкага тэрміну. Аднак пры такім раскладзе пытаньне кіраўніцтва ў любым выпадку ўзьнікне праз пэўны тэрмін. Таму расейцы і жадаюць інтэгравацца радыкальным чынам. Лукашэнку такія пэрспэктывы не падабаюцца, бо ён тады робіцца звычайным губэрнатарам. Таму й гандлюецца ён за кожнае слова праекту. Час на гэта ёсьць: да сканчэньня прэзыдэнцтва яшчэ чатыры гады. Падобна, што нават сам кіраўнік Беларусі ня ведае, як мусіць выглядаць выдуманы ім саюз.

Нягледзячы на заявы беларускіх чыноўнікаў, што інтэграцыя перайшла ў эканамічнае рэчышча, асноўнымі заўсёды заставаліся пытаньні палітычныя. Нават заявіўшы аб лібэралізацыі эканомікі, што прадугледжвае прыход замежных інвэстараў, улады не сьпяшаюцца саступіць ім ні кроплі сваіх выгод.

Яскравы прыклад — становішча з "Балтыкай". На паседжаньні Рады міністраў Лукашэнка сказаў, што ў Беларусі ня будзе ні "Балтыкі", ні якіх іншых расейскіх фірмаў, калі яны будуць навязваць Беларусі свае правілы гульні, і заклікаў расейскіх інвэстараў гуляць па ягоных правілах, г.зн. пакінуць дзяржаве кантрольны пакет акцыяў. У адказ віцэ-прэзыдэнт "Балтыкі" Тлехурай заявіў, што пачынае працэдуру вяртаньня інвэстыцыйных сродкаў зь Беларусі. Канчатковая сытуацыя павінна высьветліцца на нарадзе ў Лукашэнкі, запланаванай на блізкі час.

Калі ўжо Лукашэнка ня можа з удзелам расейскага капіталу прыватызаваць адно прадпрыемства, можна толькі здагадвацца, што будзе, калі пачнецца прыватызацыя нафтахімічнага комплексу. Гульня пойдзе значна больш сур'ёзная, бо Лукашэнку патрэбна заручыцца трывалай падтрымкай з боку расейскага бізнэсу на выпадак магчымага "інтэграцыйнага ціску" з боку Расеі. Хоць нават у выпадку, калі гэта яму ўдасца, ягоныя шанцы на саюзнае прэзыдэнцтва мізэрныя.

**Валянцін Паўлоўскі** (Н.Н.)

********************************************

# Мэмарыялізацыя Курапатаў

**Прадстаўнікі нефармальных грамадскіх ініцыятыў "За ўратаванне мемарыяла Курапаты" і "Моладзь у абарону Курапатаў" зацвердзілі канцэпцыю мемарыяла.**

У канцэпцыі адзначаецца, што Курапаты вядомыя сусветнай цывілізацыі як месца знішчэння ахвяраў палітычных рэпрэсій 1937 -- 1941 гг. У Беларусі яны з'яўляюцца збіральным вобразам безымянных магілак усіх закатаваных і расстраляных сталінскім рэжымам.

Пастановай Савета міністраў БССР ад 18 студзеня 1989 года вызначана, што ў Курапатах будзе ўзведзены помнік ахвярам масавых рэпрэсій 1937 -- 1941 гг. Гэтаму ўрочышчу на ўскрайку Мінска нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі як месцу знішчэння ахвяраў палітычных рэпрэсій.

Мэмарыялізацыя Курапатаў азначае, што:

1. Дзяржава павінна адпаведным чынам забясьпечыць ахоўны статус гэтага ўрочышча, "гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі". Тут патрабуецца забараніць правядзенне любых зямельных работ і захаваць ландшафт.

2. Неабходна на мясцовасці абазначыць тэрыторыю ўрочышча, дзе савецкімі карнымі органамі праводзіліся масавыя расстрэлы. Згодна з беларускай традыцыяй ушанавання могілак, па ўсяму перыметру Курапатаў патрабуецца ўстанавіць агароджу з уваходнымі ахоўваемымі варотамі. Прычым агароджа ўзводзіцца з традыцыйных матэрыялаў: каменя, гліны і каванага металу. Каля ўваходных варот размясціць карту-схему тэрыторыі і вызначанымі археалагічнымі контурамі месцаў пахаванняў.

3. Устаноўлены ў 1989 годзе Крыж пакуты павінен застацца дамінантай будучага мемарыялу. Неабходна толькі добраўпарадкаваць прылягаючую да ўрочышча тэрыторыю, спраектаваць падыходы, сцяжынкі, паставіць лаўкі. Захоўваюцца крыжы, устаноўленыя па перыметры лясного масіву падчас акцый абароны Курапатаў у 2001 -- 2002 гг. Прычым могуць быць устаноўлены новыя крыжы.

4. Неабходна захаваць той эмацыянальны акцэнт, які надае Курапатам прасека. Яна вядзе да ўзвышанасці, на вяршыне якой уладамі быў закладзены закладны камень. У апошнія гады паўз прасекі прадстаўнікамі розных хрысціянскіх канфесіяў устаноўлены крыжы і памятны знак ад народа ЗША. Вобраз Дарогі пакут (Галгофы) могуць дапаўняць іншыя помнікі і памятныя знакі загінуўшым ва ўрочышчы прадстаўнікам іудзейскай і мусульманскай канфесій, а таксама канкрэтным асобам.

5. На месцы закладнога каменя мэтазгодна ўзвесці помнік ці кампазіцыю, якія па сваіх памерах і сутнасці будуць адпавядаць месцу.

6. Храмы розных канфесій і музей ахвяраў таталітарнага рэжыму павінны быць вынесены за межы ахоўваемай зоны, каб выключыць любыя земляныя работы на тэрыторыі некропаля.

7. Поўнасцю некранутымі варта пакінуць ямы-пахаванні, якія найбольш моцна ўздзейнічаюць на розум і сэрцы людзей. Тут неабходны толькі санітарны дагляд, магчымая ўстаноўка крыжоў і іншых памятных знакаў. Згодна з народнай традыцыяй, прапаноўваецца навязваць на галінках дрэў памінальныя стужкі і ручнікі.

Пасля грамадскага абмеркавання канцэпцыі і ўнясення адпаведных змяненняў і прапаноў будзе аб'яўлены міжнародны конкурс праектаў Мэмарыялу ахвярам масавых палітычных рэпрэсій. Ажыццяўленне праекта павінна быць паэтапным і пастаянна знаходзіцца пад кантролем грамадскасьці.

Марат ГАРАВЫ. (Н.В.)

====================================

# Адзінае, што ад нас застаецца...

"Адзінае, што ад нас застаецца — след інтэлектуальнай працы," — сказала восенню мінулага года ў звароце да наведвальнікаў Літаратурнай гасцёўні Цэнтральнай раённай бібліятэкі беларуская журналістка і спецыяліст па інфармацыйных тэхналогіях Таццяна Цюрына.

З ёй тады ў Слонім прыехалі гісторык, пісьменнік і паэт Уладзімір Арлоў і прафесійны перакладчык мастацкіх тэкстаў Лявон Баршчэўскі. Прыехалі яны з сімвалічным ліхтаром, які быў запалены, каб светлым днём высвеціць ісціну пра нас беларусаў і пра чалавека наогул. Атрымалася так, што ісціна гэта высвечвалася з гістарычнага гледзішча, а ў кантэксце размовы гасцей з залай параўноўваліся народ як большасць і інтэлігенцыя як яго духоўная дамінанта. Аналізуючы мінулае і сучаснасць, госці ў сваіх развагах сягалі часам на супрацьлеглыя палюсы. Але і настрой чалавека за кароткі прамежак часу можа са шчаслівай эйфарыі змяніцца на чорны песімізм. Усё залежыць ад абставін, раздражняльнікаў і пункту гледжання асобы на рэчы і з'явы. А асобы гасцей заслугоўвалі таго, каб іх паслухаць.

**Народ прагаласаваў супраць мовы**

І першаму дамо слова перакладчыку прозы і паэзіі з многіх еўрапейскіх моў, а таксама палітыку, які стаяў ля вытокаў руху, а затым і партыі Беларускага Народнага Фронту Лявону Баршчэўскаму:

— Пасля рэферэндуму 1995 года некаторыя з маіх знаёмых співаліся таму, што народ прагаласаваў супраць мовы. У 1863 годзе сяляне здавалі царскім жаўнерам інсургентаў Кастуся Каліноўскага так, як у 1995 годзе здалі мову. Інтэлектуалы ж у 90-ыя гады зрабілі нямала. Напрыклад, падручнікі гісторыі з 5-га па 9-ы класы, напісаныя ў гэты час, даюць даволі праўдзівае ўяўленне пра беларускую гісторыю. Але сярод беларусаў не хапае ўплывовай інтэлігенцыі для нараджэння ўнутранага супраціву. У нас асноўная маса варожа, а ў лепшым выпадку абыякава ставіцца да сваёй жа ўласнай інтэлігенцыі. Адна з прычын гэтага — інтэлігенцыя не выконвае функцый захавання гістарычнай памяці народа і многіх іншых, што фундаментуюць нацыю.

... І тым не менш, пералом у свядомасці людзей цягам апошніх 10 гадоў адбываецца...

Аптымізм Баршчэўскага ў канцы цытаты асцярожны. Можа падацца, што яе аўтар хацеў пакінуць тым, хто яго слухаў, надзею, як апошняе з вядомага выслоўя, што памірае з чалавекам. Але гэта — як каму заўгодна. Бо нават гістарычная праўда не для ўсіх з'яўляецца бясспрэчнай.

**Няма волі адстойваць свой выбар**

Гісторык, паэт і пісьменнік Уладзімір Арлоў пачаў з рытарычнага пытання:

— Што мы можам даць свету?.. Вяртанне. Сваё вяртанне ў еўрапейскую сям'ю народаў. У XXI стагоддзе мы ўступілі са сваёй дзяржавай на палітычнай мапе свету. Але, каб Беларусь не на паперы, а сапраўды стала паўнавартаснай эўрапейскай краінай — у нас няма волі адстойваць свой выбар...

**Пасляслоўе**

У працы з цытатамі заўсёды ёсць небяспека нешта перакруціць, перайначыць, падмяніць кантэкст. І ўсё ж хацелася данесці да тых, магчыма, нямногіх чытачоў тэматычнай старонкі "Літаратура і мастацтва", хаця б канцэптуальна, думкі і погляды на гісторыю і сучаснасць вядомых у Беларусі дзеячоў культуры. Іх не так і часта сустрэнеш "ужывую" тут, у правінцыі. А наконт таго, што мала ў прыведзеных цытатах аптымізму — няхай кожны дадумвае сам. Бясспрэчна адно. У духоўнай скарбніцы беларусаў застанецца інтэлектуальны след таго ж Уладзіміра Арлова і Лявона Баршчэўскага, якія і ў творчасці, і ў грамадскай дзейнасці, і ў паездках па краіне высвечваюць пра нас праўду. Застанецца духоўны след Васіля Быкава, Уладзіміра Някляева, Святланы Алексіевіч, якія вымушаны былі на няпэўны час пакінуць Беларусь. Ды не толькі літаратары і людзі мастацтва пакідаюць пасля сябе добрую памяць...

А няпэўны час, як і няпэўнае надвор'е, калінебудзь ды праясніцца. Тым і жывем.

Мікола **КАНАНОВІЧ** (Г. С.)

\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты...

# ЁСЬЦЬ ПЭРСПЭКТЫВЫ НА ДАВОЛІ ПРЫГОЖЫ ДОМ

размова з праф. Яўгенам МІРАНОВІЧАМ, супрацоўнікам Катэдры Беларускай Культуры Унівэрсытэту ў Беластоку

**У якіх палітычных умовах даходзіць да развалу Савецкага Саюзу?**

праф. Я. МІРАНОВІЧ: Распад Савецкага Саюзу наступіў крыху раней, чым у Белавескай Пушчы было падпісанае гэтае пагадненьне паміж Шушкевічам, Краўчуком і Ельцынам. А разваліўся ён, безумоўна, па эканамічных прычынах. Доўгая вайна ў Афганістане, якая ангажавала вельмі сур'ёзныя сродкі савецкага буджэту, так вычарпала сілы гэтай вялікай краіны, што Савецкі Саюз ня быў у сілах фінансаваць іншыя інвэстыцыі ў прамысловасьці ці, скажам, заспакоіць патрэбы грамадзтва.

У самым Савецкім Саюзе, у паасобных рэспубліках нарастала хваля незадаволенасьці, апазыцыйныя, дысыдэнцкія рухі ўжо амаль зусім не кантраляваліся. Хаця ў гэтай дзяржаве было некалькі дзясяткаў мільёнаў супрацоўнікаў спэцслужбаў, але гэта – у сытуацыі, калі ўсе пачыналі гаварыць, што ёсьць дрэнна – ужо нічога не дапамагала, нельга было ўжо гэта ўсё трымаць пад кантролем.

Чарговай прычынай, зьвязанай з эканомікай, было падзеньне цэнаў нафты, галоўнай сыравіны, якую экспартаваў Савецкі Саюз. Тады цану нафты, як мне здаецца, дзякуючы дамоўленасьці паміж Амэрыкай і арабскімі краінамі, панізілі на 50%. У такой сытуацыі буджэт Савецкага Саюзу на 19881989 гады стаў проста неактуальным. Не хапала ў ім паловы сродкаў, каб пакрыць усе плянаваныя выдаткі.

Таму менавіта за тым пачалі ісьці і палітычныя вырашэньні. Упершыню ў партыйнае кіраўніцтва паклікалі маладога чалавека – Міхаіла Гарбачова, якому тады было амаль 60 гадоў, але ў гэтым акружэньні сапраўды быў ён самым маладым палітыкам. Большасьць савецкага кіраўніцтва гэта былі людзі недзе пад 70. Я не хачу пакрыўдзіць так пажылых людзей, але ў гэтым узросьце няшмат ужо новых ідэяў можна прыдумаць. Можна хадзіць па вытаптаных сьцяжынках, але новых шляхоў у такім узросьце ўжо не адкрыецца. Там проста патрэбныя былі новыя людзі. Аказалася, што сам Міхаіл Гарбачоў ня меў ніякай канцэпцыі, каб спалучыць выратаваньне з палітычнага крызысу, які набліжаўся, і эканамічнага. Тым ня меш пайшоў ён наперад. Каб пазьбегнуць нейкага некантраляванага бунту, дазволіў ліквідаваць цэнзуру, што азначала ўвядзеньне свабоды слова. Гэта, вядома, мела паспрыяць таму, каб нейк нэйтральным чынам адплыла злосьць людзей на пануючы эканамічны заняпад. Аднак ад таго, што людзі пачалі гаварыць, зусім не палепшылася эканамічная сытуацыя, а янаж была галоўнай прычынай усялякіх незадаволеньняў.

Пасьля абвяшчэньня свабоды слова партыйны апарат і паліцыя не маглі кантраляваць грамадзтва, і таму ўсё пайшло рухам даміно ці лявіны – усё валілася адно за другім.

Пакліканьне Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў гэта была спроба затрыманьня лявіны. Тады ўжо ўтрыманьне Савецкага Саюзу было немагчымае. Усе суб'екты, якія ўваходзілі ў склад імпэрыі, уключна з Расейскай Фэдэрацыяй, аб'явілі незалежнасьць. Значыць – не было ўжо рэспублікаў, якія былі ў Савецкім Саюзе. Гэтая імпэрыя, калі яе ліквідавалі ў Белавескай Пушчы, **de facto** й **de iure** ўжо не існавала. Проста, усе рэспублікі на гэты час былі ўжо незалежнымі.

Паклікаючы СНД, прэзыдэнты Беларусі, Расеі й Украіны хацелі затрымаць рэгрэс. А гэты рэгрэс быў вельмі небясьпечны для ўсіх былых рэспублікаў Савецкага Саюзу, асабліва – для вялікіх, такіх як Расея ці Украіна, гаспадаркі якіх былі цесна зьвязаныя між сабою. Можа менш небясьпечны быў ён для Беларусі, але нават і Беларусь да рэспублікаў былога Савецкага Саюзу экспартавала 85% сваёй прадукцыі. Парваньне такіх сувязяў мусіла закончыцца так, як закончылася – эканамічным правалам. Штогод валавы прадукт паменшваўся нават на 20%. Посьпехам было толькі 14працэнтнае зьмяншэньне валавога прадукту, бадай, у 1993 г. У маштабах



Расеі гэта выглядала яшчэ больш трагічна.

Таму за тым ішлі ўсе грамадзкія й палітычныя паталёгіі, якія раптам зьявіліся. Проста, сярод палітычных элітаў не было ніякай канцэпцыі, што далей рабіць. Ніхто ня ведаў – ні ў Расеі, ні на Украіне. Ну, вядома, ведалі ўсялякія жулікі й махляры, якія вельмі хутка прысвоілі дзяржаўную маёмасьць. І раптам у краінах, у якіх усе зараблялі па 100 рублёў у месяц, зьявіліся багацеі, якія куплялі вілы з басэйнамі на Міжземным Моры ці ў Каліфорніі, езьдзілі па ўсім сьвеце й мелі мільярды даляраў на прыватных рахунках. Гэтаж не магло адбыцца сумленным чынам.

У Прыбалтыцы, дзе гэты працэс праходзіў пад большым кантролем, дзе хутчэй узьніклі палітычныя партыі й арганізацыі, так дзікай прыватызацыі не было. Там з прыватызацыі скарыстала 30% грамадзтва. У сваю чаргу ў Расеі ці на Украіне на гэтых пераменах скарыстала ня больш чым 3%... Большасьць пацярпела.

У Беларусі спачатку гэты працэс праходзіў падобным чынам, як у Расеі. Аднак Беларусь была нашмат бяднейшай краінай. А палітычныя эліты, якія прыйшлі да ўлады, гэта былі тыяж самыя камуністычныя эліты й прытрымліваліся яны прынцыпаў сацыялістычнай эканомікі. Прыватызацыя ў Беларусі толькі што пачыналася. Таму, калі ў Расеі ўсялякія махляры хапалі дзяржаўную маёмасьць без аніякіх абмежаваньняў, у Беларусі гэта ўсё адбывалася даволі спакойна й стрымана, і да таго часу, калі да ўлады прыйшоў Аляксандар Лукашэнка, прыватызавана было недзе пад 15% дзяржаўнай маёмасьці. Значыць, асноўныя галіны эканомікі былі дзяржаўнымі.

У сваю чаргу тое, што адбываецца ў Беларусі сёньня, цяжка ацаніць. Афіцыйна гаворыцца, што надалей у гэтай краіне дамінуе дзяржаўная ўласнасьць. Але апазыцыйная незалежная прэса піша, што сытуацыя выглядае зусім падругому, што людзі з акружэньня прэзыдэнта Лукашэнкі йдуць шляхам, які прайшлі расейскія эліты на пачатку 90х гадоў.

**Ці ўводзячы галоснасьць і перабудову Гарбачоў не прадугледзеў далейшых падзеяў, ці ўжо тады хацеў ён давесьці да развалу гэтай імпэрыі?**

Расейскія палітолягі, сацыёлягі й гісторыкі адназначна на гэтае пытаньне не адказалі.

Ёсьць даволі сур'ёзная група палітолягаў, якая сьцьвярджае, што сытуацыя ўцякла зпад кантролю Гарбачова й ягонага акружэньня, і тое, што пазьней здарылася, было супраць волі партыйнага кіраўніцтва й спэцслужбаў. Але ёсьць таксама група дасьледчыкаў, якія – прыводзячы на гэта доказы – лічаць, што ўвесь гэты працэс быў поўнасьцю заплянаваны. Гэтая другая група зьяўляецца меншасьцю сярод расейскіх палітолягаў, сацыёлягаў, гісторыкаў. Аднак прадстаўляюць яны шмат абгрунтаваных высноваў у публічнай дыскусіі, гаворачы, што людзі з элітаў улады заплянавалі такі ход падзеяў, таму што яны найбольш на гэтым скарысталі. Менавіта, партыйны апарат ці апарат спэцслужбаў стаў адным з удзельнікаў падзелу дзяржаўнай маёмасьці. Былі гэта людзі можа не з самага Цэнтральнага Камітэту, бо гэтыя былі ўжо непрыгодныя з увагі на свой узрост, але тыя, якія рыхтаваліся іх заступіць у элітах улады. Атрымалі яны добрую адукацыю ў сябе, а таксама мелі магчымасьць вучыцца паза межамі Савецкага Саюзу. Скажам, Беразоўскі не прыйшоўжа з калгасу, бо ніколі там не працаваў. Ён быў блізка элітаў улады. А такіх як ён было шмат.

**Што на практыцы азначала падпісаньне пагадненьня ў Віскулях?**

На практыцы гэта мела дапамагчы ў захаваньні эканамічных сувязяў паміж Беларусяй, Расеяй і Украінай. Пасьля, мяркуючы, што справа тут толькі ў эканамічных сувязях, далучыліся да гэтай Садружнасьці таксама іншыя краіны, якія апынуліся ў падобнай сытуацыі, у якіх эканамічны правал адбыўся яшчэ хутчэй, чым у гэтых славянскіх дзяржавах. Я маю тут на думцы закаўкаскія й азіяцкія рэспублікі. Для іх часта далучэньне да СНД было формай пошукаў уласнай бяспекі, з увагі на тое, што апынуліся яны бяз арміі, бяз зброі, а дзесьці там на поўдні, на мяжы Афганістану, ці іншых краінаў Цэнтральнай Азіі бушавалі розныя ўзброеныя групы, якія ў сапраўднасьці, маючы некалькі тысячаў жаўнераў, магліб разагнаць усю ўладу ў Таджыкістане ці ва Узбэкістане. Таму партыйныя эліты гэтых рэспублікаў разглядаліся за саюзьнікам і гэтага саюзьніка знайшлі ў Расеі й далучаліся да СНД па палітычных прычынах.

часам на сходах найвышэйшых уладаў Садружнасьці нараджаліся розныя думкі, каб замацоўваць палітычнае ці нават вайсковае супрацоўніцтва. Падпісвалася, зразумела, шмат адпаведных дамоваў. Але, як чуем, ніводная з гэтых вайсковых дамоваў не ажыцьцяўляецца. Прычына тут адна – улады такіх краінаў, як Грузія ці Украіна ня надта давяраюць найбольшаму саюзьніку, якім зьяўляецца Расея. Баяцца, што можа вярнуцца такая залежнасьць, якая была ў гады Савецкага Саюзу. Таму менавіта падыходзяць да гэтага вельмі стрымана й асьцярожна. А ў такой арганізацыі недахоп даверу абазначае, што на практыцы немагчыма ажыцьцявіць аніякіх палітычных мэтаў.

Аднак я сказаў-бы яшчэ, што апрача эканамічнага супрацоўніцтва, якое зьяўляецца проста неабходным у гэтай частцы Эўропы й Азіі, таксама неабходным зьяўляецца змаганьне з рознага тыпу крымінальнымі групоўкамі. На хвалі гэтых пераменаў амаль у кожнай постсавецкай рэспубліцы ўзьніклі мафіі. У Расеі, на Украіне, у меншай ступені ў Беларусі, мафіі кантралююць фінансы дзяржавы, кантралююць вялікую частку гаспадаркі дзяржавы. І тут без супрацоўніцтва паміж спэцслужбамі розных краінаў СНД, немагчыма змагацца са зьявай сарганізаванай злачыннасьці. А калі ня ўдасца ліквідаваць мафіі ў гэтых краінах, немагчыма будзе наладзіць супрацоўніцтва з краінамі г. зв. Захаду. Там патрабуюць чыстых грошай, а тут мы бачым скандал за скандалам – даведваемся, што той міністар быў зьвязаны з мафіяй, той банкір быў зьвязаны з мафіяй. Па гэтай менавіта прычыне гандлёвы абмен ці эканамічнае супрацоўніцтва з краінамі Захаду будзе тармазіцца. Асабліва пасьля 11га верасьня, калі нейкая арабская тэрарыстычная група разбурыла парадак у Амэрыцы, Захад будзе вельмі асьцярожна глядзець на ўсялякія сродкі, якія прыходзяць і выходзяць з тамашніх банкаў. І, праўдападобна, будзе патрабаваць ад сваіх партнэраў з Садружнасьці кантролю за фінансамі ў сваіх краінах.

**З пэрспэктывы 10 гадоў, Беларусь на развале Савецкага Саюзу больш скарыстала, ці больш страціла?**

Нягледзячы на тое, што пішацца і што гаворыцца пра Беларусь, што Лукашэнка стварыў там таталітарную сыстэму ці аўтарытарны рэжым, сытуацыя Беларусі ніколі ў гісторыі не была лепшай, чым ёсьць цяпер. Існуе проста краіна, якая называецца Беларусь, яна прызнаная амаль усімі дзяржавамі сьвету, ніхто не сумняецца, што такая краіна існуе, афіцыйна ніхто ня хоча ліквідацыі гэтай краіны. Ёсьць свой прэзыдэнт, ёсьць улады, ёсьць парлямэнт. Гэта няважна, што згаданыя ўлады прызнаюцца недэмакратычнымі, што яны часта бываюць антыбеларускімі, усёж такі зь юрыдычнага пункту гледжаньня Беларусь існуе як палітычны суб'ект. Такой сытуацыі ніколі раней не было ў гісторыі, за выключэньнем, скажам, пэрыяду Полацкай Дзяржавы. Пазьней былі ўсялякія ўтварэньні, у якіх Беларусь была часткай Вялікага Княства Літоўскага, якое ахоплівала амаль усе краіны Прыбалтыкі, Украіну, частку Расеі, Беларусь і частку Польшчы. Пазьней была Рэчпаспалітая, якую – па характары культуры й палітычных уплываў – можна акрэсьліць польскай

дзяржавай. Хаця ў беларускай гістарыяграфіі пішацца, што была гэта беларуская дзяржава, я не знаходжу прыкметаў, каб так менавіта асэнсоўваць.

Была-ж і Руская Імпэрыя, дзе ўвогуле мовы не было пра ніякую беларускую дзяржаўнасьць. Ну й тойжа Савецкі Саюз... Была, праўда, нейкая адміністрацыйная адзінка, названая Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, куды прысылаліся ўлады з Масквы, дзе не было – я сказаўбы – нават спробы станаўленьня ўлады мясцовым грамадзтвам.

Цяпер, усё-ж такі, і гэты парлямэнт, і гэтага-ж прэзыдэнта так ці інакш выбіралі грамадзяне. Ці яны добра выбралі, ці дрэнна – гэта ўжо другая справа. Але крыніца ўлады, прынамсі тэарэтычна, але таксама і ў сапраўднасьці, выйшла ад мясцовага люду. Ізноў – якая яна ёсьць гэтая ўлада – гэта іншая справа, але крыніца ўлады знаходзіцца ў руках народу. І гэта сьведчыць пра тое, што Беларусь фармальна зьяўляецца нармальнай эўрапэйскай краінай.

Хопіць толькі ў гэтым эўрапэйскім доме, які называецца Беларусь, упарадкаваць унутраныя справы, і я думаю, што ёсьць пэрспэктывы на даволі прыгожы дом.

*Размаўляў* ***Яраслаў ІВАНЮК*** */Камунікат/*

**Юры Хадыка** піша ў Н.Н.:

...Самае абуральнае, што за 10 год незалежнасьці ні адна з галоўных канфэсій не стварыла кананічнага перакладу Бібліі і багаслужбы. Гэта асабліва абуральна, калі прыгадаць, што сьвятым братам Кірылу і Мятоду хапіла 20 год, каб стварыць пісьмовую мову для дзікага народу і перакласьці на яе Святое пісьмо і літургію. Верагодна, ім дапамагаў Дух Сьвяты і гарачае жаданьне прывесьці да Хрыста новыя народы. А сёньня дзеяньня Духа Сьвятога не відаць, за якія б словы ні хаваліся ярархі найбуйнейшых канфэсій. Таму, думаю, спадзяваньне на "хатнія маліто́ўныя гурткі й вялізныя агульнаграмадзкія служэньні" дачаснае...

Сяргей Апанасік з Менску кажа:

-- Мяне вельмі непакоіць, што (я вось перад гэтым быў на рынку і ў іншых магазінах) на прылаўках ляжыць каўбаса маскоўскай вытворчасьці, і малако, і кефір -- смаленскія. Гэта ж мы некалі забяспечвалі іх поўнасцю: і маслам, і каўбасой, і малаком, а цяпер мы адтуль возім. Ганьба, ганьба Беларусі! Вось па апошніх навінах Уладзімір Пуцін наведаў Францыю, Польшчу. Гэта паездкі расійскага прэзідэнта. Паездкі нашага прэзідэнта -- паехаў у калгасы Брэсцкай вобласці. Навошта? Вучыць, як праводзіць веснавую сяўбу? Гэта праца прэзідэнта? То няхай бы ён паехаў у Польшчу і ва Украіну і дамовіўся б аб пастаўках больш танных харчовых тавараў. Ён жа за межы Беларусі нікуды не ездзіць. А тут ён выконвае функцыі брыгадзіра: расстаўляе людзей на работу. Вось адсюль усе і нягоды. Прэзідэнт так і не навучыўся кіраваць дзяржавай...

*****************************************

## Разам – за беларускую мову

**Са студзеня гэтага года творчае маладзёжнае аб'яднанне "Вятрак" пачало рэалізацыю рэспубліканскага праекту "Мы разам – за беларускую мову".**

У гэтым праекце, па словах кіраўніка аб'яднання Алега Шэлестава, прымуць удзел болей дзесяці грамадскіх арганізацый з розных гарадоў і вёсак нашай рэспублікі.

Плануецца, што падчас мера-прыемства будуць праводзіцца паэтычныя вечарыны, школьныя мерапрыемствы, будзе выпускацца штомесячны інфармацыйны бюлетэнь, кніжачкі для дзяцей.

Як адзначыў Алег Шэлестаў, прадстаўнікі арганізацый выступяць з заклікам да бацькоў аддаць сваіх дзяцей у беларускамоўныя школы (класы), садкі.



# Брава!

**Спатканне з Радзімай**

"Развітанне з Радзімай", знакаміты паланез нашага земляка Міхася Клеафаса Агінскага. Увасабленне гэтага шэдэўра ва ўзнёсла-шчымлівай кампазіцыі -- візітная картка Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, па якой яго пазнаюць дома і за мяжой. Яна і сталася яркім фіналам у прэм'ерным паказе новай праграмы творчага калектыву на сцэне Палаца Рэспублікі.

Вялікая зала была паўнюткая: не, не згасла цікавасць гледачоў да нашага самабытнага, непаўторнага нацыянальнага мастацтва! Рассоўваецца габеленавая заслона з выявай лясных абшараў, блакітных азёр, велічных храмаў і замкаў роднага краю, і яго някідкая паэтычная краса ажывае ў кампазіцыі "Мая Беларусь". Яна дала назву ўсёй праграме, якую яшчэ можна было б назваць "Спатканне з Радзімай" – багатай гісторыяй і культурай Бацькаўшчыны, яе талентамі, з самой народнай душой.

Творчая фантазія мастацкага кіраўніка ансамбля -- народнага артыста Беларусі Валянціна Дудкевіча, які плённа выкарыстоўвае невычэрпныя скарбы фальклору, -- разам з бліскучым майстэрствам артыстаў робяць сапраўдны цуд, дораць незабыўнае адчуванне, абуджаюць патрыятычныя пачуцці. Іскрысты, вясёлкавы вадаспад фарбаў, гукаў, танцавальных узораў, дзе перапляліся лірыка і гумар, імклівая заліхвацкасць І задуменнасць, абрынуліся на гледача ў танцавальных замалёўках, што захавалі непаўторны каларыт нарадзіўшай іх мясцовасці: "Віцебская кадрыля", "Тапатуха", "Вясковыя гульні". А творчы пошук у пастаноўцы маштабных кампазіцый, навеяных гістарычнымі падзеямі і народнымі паданнямі (акрамя ўжо згаданых, нельга не назваць і харэаграфічную паэму пра каханне "Нясвіжская легенда"), як і плённая садружнасць з хорам "Санорус", адкрываюць новыя грані і магчымасці заслужанага калектыву.

Арганічным было ўключэнне ў прэм'еру вакальна-харэаграфічнага твора "Аве Марыя", прысвечанага памяці ахвяр тэрарыстычнага акта ў Нью-Йорку 11 верасня 2001 года. Народ Беларусі, спазнаўшы шмат пакут на сваім шляху, з болем і спагадай адгукаецца на трагедыю далёкай Амерыкі і кожнага, каго напаткала бяда. А вось зьяўленне ў праграме выпадковых, зусім з "іншай оперы" спартыўных і брэйк-дансавых нумароў -- не толькі на мой погляд -- парушае цэласнасць мастацкай тканіны і наўрад ці апраўдана. Як, між іншым, і недарэчнае "дамы і гаспада" ў звароце да публікі чароўнай вядучай, якая, трэба аддаць належнае, вяла праграму на добрай беларускай мове, але, пэўна, палічыла натуральнае ў гэтым выпадку "спадарыні і спадары" чымсьці "контррэвалюцыйным"...

І ўсё ж дробныя "але" не замінаюць цалкам і поўнасцю далучыцца да воклічаў "Брава!", што гучалі ў той вечар у галоўнай канцэртнай зале краіны. Шкада толькі, што гэтая зала, як і іншыя прэстыжныя залы, дагэтуль былі спрэс аддадзены заезджым гастралёрам. Мы гасцям, бясспрэчна, рады, шчыра дзякуем за іх мастацтва. Але ж колькі можа доўжыцца абсурд, пры якім цудоўныя беларускія калектывы і выканаўцы пастаўлены ў зневажальную сытуацыю "Дазвольце, паночкі, мне ў сваёй хаце пад лаўкай заначаваці"?

Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі -- першы з пачатку года нацыянальны калектыў, удастоены гонару выступіць у Палацы Рэспублікі. Як заверыў прылюдна, віншуючы артыстаў і іх кіраўніка з заслужаным поспехам, дырэктар Палаца Пётр Волкаў, беларускім творцам нарэшце будзе адкрыта дарога на гэту сцэну: нам ёсць што паказаць, чым ганарыцца перад усім сьветам, прымнажаючы багатыя духоўныя набыткі папярэднікаў.

Як кажуць, добрыя словы ды Богу ў вушы. І хоць адна ластаўка яшчэ не робіць вясны, хай за ёй з радасным шчэбетам прыляціць цэлы вырай!

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА. (Н. Воля)

## Фальшывыя даляры знойдзены ў доме Вольгі Корбут

*Хваля скандалу вакол чатырохразовай алімпійскай чэмпіёнкі з Беларусі ўздымаецца ўсё вышэй. У пазамінулым нумары мы паведамілі пра тое, што Вольгу Корбут былі арыштавалі за спробу скрасці з крамы прадукты агульным коштам 19 даляраў. Тады яе выпусцілі на волю пасля ўплаты закладу ў 600 даляраў, хутка адбудзецца суд.*

Літаральна праз некалькі дзён стужкі інфармацыйных агенцтваў «аздобіла» яшчэ адно паведамленне. Аказваецца, у доме «цуду з касічкамі» ў штаце Джорджыя быў знойдзены пакет з далярамі ЗША, і экспертыза прызнала іх фальшывымі.

Агенцтва *Reuters* са спасылкай на амерыканскія спецслужбы распавяло наступнае. Дом у прыгарадзе Атланты Дулуце (штат Джорджыя), дзе жыла Вольга Корбут з мужам, быў закладзены за 240 000 даляраў. Калі тэрмін закладной скончыўся, а грошы па ёй не былі сплачаныя, паліцыя прыбыла туды, каб выселіць былую алімпійскую чэмпіёнку. Гэта было 5 снежня мінулага году.

Шэрыф знайшоў дом «пакінутым і значна пашкоджаным». Ягоны намеснік Трэйсі Лі зайшоў усярэдзіну, каб перадаць гаспадарам дакументы аб адчужэнні маёмасці, але там нікога не было. Па ягоных словах, усярэдзіне панаваў беспарадак, электравыключальнікі і дзверы адсутнічалі, адна шыба – выбітая, у кухонным гарнітуры не хапала шуфлядаў. На другім паверсе будынку памочнік шэрыфа знайшоў пластыкавы пакет, які ляжаў непадалёк ад некалькіх камп'ютэраў на другім паверсе. У пакеце знаходзілася вялікая колькасць амерыканскіх грошай. Пазней экспертыза засведчыла іхнюю несапраўднасць. Паведамляецца таксама, што ў доме В. Корбут паліцыя знайшла пэўную колькасць спартыўных узнагародаў, а таксама амаль двухметровы партрэт гаспадыні ў юнацтве.

Суседзі паведамілі, што гаспадары з'ехалі некалькі тыдняў таму. Аднак у доме павінен быў заставацца іхні 22-гадовы сын.

Як заявіў прадстаўнік *US Secret Service* Біл Крыл, ягонае ведамства зараз высвятляе паходжанне фальшывых даляраў, знойдзеных у доме В. Корбут. Б. Крыл паведаміў *Reuters*, што спецслужбы пакуль «зрабілі толькі першыя крокі ў расследаванні». Па ягоных словах, у пакунку, знойдзеным паліцыяй, было болей за 4 000 даляраў, аднак «агенты працягваюць падлічваць» банкноты. Усе фальшыўкі – у 100-даляравых купюрах.

Як піша *The New York Times*, узяць каментар у самой «гераіні скандалу» – Вольгі Корбут – не ўдалося. Яе прадстаўніца Кей Уэзерфард паведаміла атланцкай газеце, што Корбут «не мае ніякага ўяўлення» наконт падробных грошай і што яна пэўны час ужо не жыла ў гэтым доме.

Нагадаем наймаладзейшым чытачам, што ў 1972 годзе 17-гадовая беларуская гімнастка Вольга Корбут зрабіла сапраўдную сенсацыю на Алімпіядзе ў Мюнхене, калі выйграла тры залатыя медалі. Яшчэ адзін залаты медаль яна заваявала ў Манрэалі ў 1976 годзе. З 1991 году Вольга Корбут жыве ў ЗША, працуе трэнерам па гімнастыцы. Ёй цяпер 46 гадоў. Яе муж – Леанід Барткевіч, вядомы ў мінулым спявак гурта «Песняры». Сын – 22-гадовы Рычард Барткевіч.

==============================

## Амэрыканцы ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА.** З 13 па 22 лютага ў горадзе праходзілі дні амерыканскай культуры. На іх адкрыццё ў цэнтральную бібліятэку імя Багдановіча прыехаў Надзвычайны і паўнамоцны пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак. Ён ўдзельнічаў у адкрыцці інтэрнэт-класа і аддзела літаратуры на замежнай мове. Амерыканцы не абмежаваліся пераразаннем стужачкі. Камп'ютэрны клас адкрыўся ў рамках праграмы Цэнтра культуры, інфармацыі і адукацыі пры пасольстве ЗША. Большую частку літаратуры на замежных мовах таксама прывезлі амерыканцы.

Да сустрэчы з заакіянскімі гасцямі рыхтаваліся. Хор дзіцячай музычнай школы выканаў песні на беларускай і англійскай мовах, чым узрушыў пасла. Шчыра ён апладзіраваў танцорам з сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў.

Майкл Козак падарыў дырэктару гарадской бібліятэчнай сістэмы Ніне Артышэвіч кнігу пра Амерыку, а ўзамен ад гарадскіх уладаў атрымаў саламяную ляльку з надпісам "Маладзечна-2002" і буклет пра горад...

Пазней, калі адкрылі інтэрнэт-клас, да аднаго з камп'ютэраў падышоў Майкл Козак. Ён прысеў на кукішкі і пачаў працаваць з інтэрнетам. Нягледзячы на тое, што побач было крэсла. І яшчэ Майкл Козак запомніўся сваёй галівудскай усмешкай.

У рамках дзён амерыканскай культуры ў бібліятэках і школах горада запланаваны шэраг мерапрыемстваў. Гэта віктарыны, лекцыі, выстаўкі літаратуры, прагляд відэафільмаў на амерыканскую тэматыку...

==============================

# Клецкая даўніна

Андрэй ПЯТЧЫЦ /Наша С./

*Клецк, як і яго найбліжэйшыя суседзі Капыль і Слуцк, вельмі старажытны горад, магчыма, нават старэйшы за іх. Звестак пра дакладную дату і гісторыю яго заснавання не захавалася, але можна меркаваць, што некалі Клецк быў асяродкам славянскага племені дрыгавічэў, якія жылі менавіта ў гэтым рэгіёне.*

У XV стагоддзі Клецк належаў да вялікакняскага роду Ягайлаў. Кароль Жыгімонт Стары перадаў яго ў пажыццёвае карыстанне сваёй жонцы – славутай каралеве Боне.

Сын Жыгімонта Старога – Жыгімонт Аўгуст – падарыў Клецк «на вечныя часы» роду Радзівілаў у асобе князя Мікалая Чорнага, які займаў у той час пасаду віленскага ваяводы. Кароль меў асаблівы інтарэс да ягонай сястры Барбары. Гэты каралеўскі інтарэс скончыўся тым, што Жыгімонт Аўгуст узяў шлюб з Барбарай. Тая ўзышла на трон Рэчы Паспалітай усяго толькі на паўгода, але Клецк застаўся за Радзівіламі.

У тыя часы горад меў даволі моцную сістэму абароны. Перадусім яна складалася з земляных валоў і равоў, што зваліся ў той час «акопы». Клецкі замак, або «цвердзь», таксама быў нядрэнна ўмацаваны. Нягледзячы на гэта, у XVI-XVIII стагоддзях Клецк шмат цярпеў ад нападаў розных ворагаў: былі гэта і крымскія, ці, як іх яшчэ клікалі, перакопскія татары, і рускія войскі на чале з царамі Аляксеем Міхайлавічам і Пятром I, і шведы пад камандай Карла XII. Але найбольшы след у гісторыі Клецку пакінуў 1506 год, слаўны перамогай войска навагрудскай і менскай шляхты над татарамі.

Шляхецкае войска на чале з князем Міхалам Глінскім, якое налічвала нямала, як на тыя часы, – 10,000 чалавек, выступіла супраць дваццацітысячнага войска перакопскага хана Баты-Гірэя, які авалодаў Клецкам і засеў у цвердзі. З надыходам шляхецкага войска татары вырашылі пакінуць горад і ўмацаваліся ў тых самых акопах, што адным бокам прылягалі да балоцістай мясцовасці, а з іншага мелі насыпаны з зямлі вал вышынёй на 50 стопаў і бастыён. Аблога цягнулася даволі доўга; татары, не маючы вады для піцця, выкапалі сабе вялікую студню, сляды якой захоўваліся яшчэ некалькі стагоддзяў. Калі, на думку кіраўнікоў шляхецкага войска, абложаныя ворагі дастаткова аслаблі, нашыя суайчыннікі пайшлі на штурм і прымусілі татараў адступіць да дрыгвяных берагоў ракі Цэпры, дзе іх усіх і перабілі або пабралі ў палон. Бойка была такая жорсткая, што вада ў рацэ і недалёкім возеры зрабілася чырвонай ад чалавечай крыві. У памяць аб гэтых падзеях возера і фальварак, што паўстаў троху пазней на ягоным беразе, пачалі клікаць Чырвоным Ставам. Пераможцы вызвалілі 40,000 чалавек, якіх татары гналі ў палон. Якраз гэтая перамога пад Клецкам паклала канец рабаўніцкім наездам «крымчакоў» на беларускія землі. У памяць пра яе князь Мікалай II Радзівіл у 1508 годзе загадаў пабудаваць у Вільні каля свайго палацу касцёл у імя святога Юр'я, які сам фундаваў. Цікава, што ўзятых у палон татараў не перабілі – іх пасялілі ў самім Клецку і ў наваколлі, дзе яны і заняліся традыцыйнымі для беларускіх мусульманаў рамёствамі.

У 1550 годзе ў Клецку быў закладзены мураваны фарны – катэдральны – касцёл. Пачаў яго будаўніцтва ў якасці дабрадзея шляхціц Андрэй Маствілоўскі. Радзівіл Чорны, абярнуўшыся ў кальвінскую веру, забраў касцёл у каталікоў (неўзабаве пасля заканчэння будаўніцтва – у другой палове XVI стагоддзя) і аддаў кальвіністам, пасадзіўшы пры ім у якасці «міністра» славутага беларускага вучонага-пратэстанта Сымона Буднага.

Праз некаторы час, калі князь Альберт Станіслаў Радзівіл пад уплывам езуітаў навярнуўся да каталіцызму, адабраў касцёл у пратэстантаў і вярнуў яго ранейшым гаспадарам, тут у якасці параха служыў вядомы сваёй літаратурнай дзейнасцю ксёндз Марцін, які пісаўся «з Клецку». Да самай бальшавіцкай рэвалюцыі клецкая фара прастаяла як парафіяльны касцёл, маючы адну філію – касцёл у вёсцы Салаўі і 7 капліц у розных месцах пад горадам.

У сярэдзіне другой паловы XVI стагоддзя, а менавіта ў 1586 годзе, вядомы князь Мікалай Кшыштаф Радзівіл «Сіротка» разам з князем Станіславам II прапанаваў закласці тры ардынацыі: алыцкую, нясвіжскую і клецкую. Гэтая сямейная ініцыятыва была зацверджана каралём Стэфанам Баторыем. Першым ардынатарам клецкім стаў князь Альберт II, маршалак Вялікага княства Літоўскага. А спатрэбілася гэтая ардынацыя вось навошта: магнацкі род Радзівілаў быў багаты і амаль заўсёды шматлікі, але і ён не быў застрахаваны ад непрыемнасцяў лёсу. Некалькі галінаў Радзівілаў згаслі, не маючы працягу па мужчынскай, а часам адразу і па жаночай лініі. Таму, закладаючы ардынацыю, Радзівілы фактычна закладалі тры новыя незалежныя галіны роду, якія (так меркавалася) хоць і будуць родзічамі, але не блізкімі. Застаючыся Радзівіламі, яны тым самым набывалі больш пэўныя гарантыі для працягу існавання роду ў шырокім сэнсе. Дарэчы, адбылося тое, чаго і баяліся: першай згасла алыцкая ардынацыя, клецкая ж праіснавала да сярэдзіны другой паловы XIX стагоддзя, калі апошні з клецкай галіны – бяздзетны Леў Радзівіл – з найвышэйшага, царскага, дазволу перадаў свае правы на валоданне Клецкам і зямлёй, што яму належала, пад уладу князя Антонія Радзівіла, ардынатара нясвіжскага, паставіўшы, аднак, умову – пажыццёва яго ўтрымліваць. У той час Клецкая ардынацыя налічвала 73 фальваркі, мела вёскі і лясы не толькі пад Клецкам, але і ў мазырскім і слуцкім паветах.



● Клецкае гарадзішча – апошні след даўняга жыцця

Шмат пакутаваў Клецк, як і ўся паўднёвая частка сучаснай Беларусі, у XVII стагоддзі ад частых, жорсткіх і спусташальных набегаў казакоў з Украіны, атрады якіх наводзілі сапраўдны жах на людзей. Імкнучыся пазбегнуць сутычак з рэгулярнымі войскамі, яны нападалі на безабаронных жыхароў мястэчак і вёсак. Не вызначаючыся літасцю ні да кога, казакі не звярталі асаблівай увагі ні на веравызнанне, ні на нацыянальную прыналежнасць ахвяраў сваіх разбояў.

На працягу ўсяго XVIII стагоддзя ніякіх значных падзей у Клецку не адбылося, жыццё нібыта пайшло іншым шляхам – забыліся тут і пра мысляра-бунтара Сымона Буднага, і пра татараў, і пра шмат якія іншыя падзеі з уласнай мінуўшчыны – жылі людзі сабе памалу, рабілі і дзякавалі Богу за спакойнае, няспешнае жыццё.

Акрамя фарнага, у Клецку быў яшчэ мураваны касцёл з кляштарам айцоў дамініканаў. Гэты касцёл заклалі значна пазней за фару – у другой палове XVII стагоддзя, і фундаваў яго князь Станіслаў Казімір Радзівіл. У другой палове XIX стагоддзя, за падтрымку антырасійскага вызваленчага паўстання, дамініканам забаранілі знаходзіцца ў Клецку, а іхні касцёл перадалі ва ўласнасць Рускай праваслаўнай царкве, перарабіўшы яго ў прыходскую царкву. Адзіным сапраўды расійскім помнікам архітэктуры ў Клецку была невялікая царква, пабудаваная імперскімі ўладамі ў сярэдзіне XIX стагоддзя, у рамках дзяржаўнай праграмы будаўніцтва праваслаўных цэркваў на беларускіх землях.

Распавядаючы пра Клецк, немагчыма абысці ўвагай і яго знакамітую сінагогу. Пабудавалі яе тыя ж Радзівілы на ўласныя сродкі ў XVIII стагоддзі як падзяку габрэйскай грамадзе Клецку за добрую працу па развіцці гораду. Была яна мураваная, усярэдзіне багата ўпрыгожаная разьбой па дрэве работы мясцовых майстроў, а на франтоне будынку яшчэ пры канцы XIX стагоддзя быў бачны радзівілаўскі герб.

# ПАД ЧУЖЫМ НЕБАМ

## ЛЁСЫ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЭМІГРАНТАЎ

Пачынаючы з вясны 1996 году колькасць палітычных уцекачоў з Беларусі павялічваецца штогод. Спачатку былі адзінкі, пасьля дзясяткі, цяпер іх – сотні. Першымі беларускімі палітэмігрантамі ў 90-х гадах мінулага стагодзьдзя сталі людзі, для якіх у Беларусі існавала рэальная пагроза пазбаўленьня волі, пагроза іх здароўю, жыцьцю. Адныя з першых вясной 1996 году выехалі ў Амерыку старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык – дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. 24 жніўня ўлады ЗША далі ім палітычны прытулак.

Але сапраўдных палітычных эмігрантаў з Беларусі насамсправе ня так ужо і шмат. Адныя бягуць за мяжу пасьля таго як былі некалькі разоў прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці. Іншыя ж за кошт палітычнай сітуацыі ў Беларусі жадаюць палепшыць сваё эканамічнае становішча. Яны ня маюць дачыненьня да барацьбы з рэжымам, аднак зьвязджаючы прадстаўляюць сябе "ахвярамі", якіх прыціскаюць у сувязі з палітычнымі перакананьнямі. Мясцовыя ўлады са спачуваньнем і разуменьнем ставяцца да ўцекачоў з Беларусі, аднак правяраюць іх строга.

Своеасаблівай Мекай для беларускіх эмігрантаў цяпер зьяўляецца Бельгія. Хутчэй за ўсё, зьвязана гэта з тым, што там больш лагодны рэжым у адносінах да ўцекачоў. Увогуле Бельгія славіцца тым, што прымае шмат эмігрантаў з розных краінаў. Па некаторых зьвестках, уцекачы з Беларусі займаюць тут другое месца пасьля курдаў. Эмігранты атрымліваюць вельмі невялікую па бельгійскіх мерках матэрыяльную дапамогу, жывуць у інтэрнатах, якія нагадваюць камунальныя кватэры – пакоі з агульным калідорам, у канцы якога – выгоды. Так яны жывуць пакуль ня знойдуць сабе нейкую працу і лепшае месца жыхарства. У асноўным эмігранты з Беларусі жывуць у партовым горадзе на мяжы з Галандыяй – Антверпене. Гэта другі па велічыні горад пасьля Бруселю. Там жыве Ігар Лазарчук, які зьяўляецца лідэрам беларускіх эмігрантаў. Ён арганізоўвае пікеты каля беларускай амбасады і будынку Еўрасаюзу, прымеркаваныя да розных датаў і падзеяў – да Дня Волі 25 сакавіка ці ў падтрымку "Маршу Свабоды" і інш.

Дык хто ж яны, беларускія палітэмігранты новай хвалі? Дзе і як яны жывуць? Вось некалькі яскравых прыкладаў.

23-гадовы Алесь Каваль зьехаў у Бельгію яшчэ ў 1997 годзе, бо быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці пасьля падзеяў 25 сакавіка. Тады судзілі адразу пяць чалавек, у тым ліку і Алеся. Ён правёў да суда чатыры месяцы ў сьледчым ізалятары на вул. Валадарскага, пасьля атрымаў "хімію". І ў выніку зьехаў. Гэта, мабыць, быў адзін з першых беларускіх эмігрантаў у Бельгіі. Ён даволі хутка атрымаў статус уцекача, вывучыў фламандзкую мову, зьняў кватэру і жыў у ёй з фламандзкай дзяўчынай...

Зьехаў у Бельгію напрыканцы мінулага году і Мікалай Раманаў – кіроўца з МАЗу, актывіст БНФ, які неаднаразова прыцягваўся да адміністратыўнай адказнасьці, меў вялікую колькасьць штрафаў, і ўрэшце быў звольнены з працы. Трапіў ён на поўдзень Бельгіі ў франкамоўную частку. Жыў у лагеры для ўцекачоў, марыў перабрацца ў Антверпен "бліжэй да сваіх"... Былы жыхар Віцебску, актывіст мясцовай суполкі БНФ «Адраджэньне» Юры Мароз за сваю палітычную дзейнасьць быў неаднаразова аштрафаваны і адсядзеў за кратамі больш за 30 дзён. У родным горадзе ён ня мог знайсьці сабе працу. На Ю.Мароза быў зроблены шэраг замахаў: адзін раз ён быў зьбіты невядомымі, другі раз у ягоную адсутнасьць міліцыяй былі ўзламаныя дзьверы ягонай кватэры. 12 чэрвеня 1998 году Юры Мароз папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі і атрымаў яго. Але жыцьцё ў Чэхіі не задаволіла яго, і ён падаўся далей – у Бельгію...

18 лютага 1999 году папрасіў палітычнага прытулку ў Нямеччыне судзьдзя Ленінскага раёну г. Бабруйску Юры Сушкоў. Перад ад'ездам ён сустрэўся з журналістамі, сказаў што "страціў усялякую надзею на якую-небудзь справядлівасьць у Рэспубліцы Беларусь", бо ў дзяржаве, якая лічыцца прававо́й, адсутнічае прынцып падзелу ўладаў. Судовая ўлада не зьяўляецца самастойнай. Гэтую выснову Юры Сушкоў зрабіў з уласнай судовай практыкі. Судзьдзі падпарадкоўваюцца міліцыі і КДБ, выносяць патрэбныя ўладам рашэньні. Менавіта пад ціскам з боку сьпецслужбаў Юры Сушкоў быў вымушаны адправіць людзей за краты замест апраўдальнага рашэньня. Фактычна невінаватыя апынуліся ў турме: адзін на два з паловай гады, другі – на чатыры з паловай. Адразу пасьля сустрэчы з журналістамі Сушкоў пакінуў межы Беларусі. Калі інтэрв'ю з ім зьявілася ў прэсе, ён ужо знаходзіўся ў лагеры для ўцякачоў у Германіі. Цяпер Юры Сушкоў жыве ў Італіі.

29-ці гадовы Ільля Глыбоўскі зьехаў у Чэшскую

Рэспубліку ў красавіку 2001 году пасьля дэпартацыі з Беларусі Міхала Плаўца — журналіста, супрацоўніка праваабарончай арганізацыі "People In Need". Ільля Глыбоўскі быў вымушаны пакінуць Беларусь у сувязі з ціскам на яго з боку сьпецслужбаў і спробай затрыманьня. Справа ў тым, што на кватэры ў Глыбоўскага быў зарэгістраваны Міхал Плавец. Цяпер Ільля жыве ў Празе. Пакуль што палітычны прытулак ён не атрымаў – пытаньне яшчэ разглядаецца, але павінна хутка вырашыцца. Тады ён атрымае ўсе дакументы, якія належыць, і адмысловы пашпарт уцекача. Гэта не пашпарт грамадзяніна, але, паводле Жэнеўскага пагадненьня 1951 году, эмігрант з гэткім пашпартам мае такія ж сацыяльныя правы і гарантыі, як і грамадзянін, але ня мае права прымаць удзел у выбарах і займаць дзяржаўныя пасады. У Чэхіі, калі ты атрымаў статус уцекача, але не працуеш, дзяржава выплочвае дапамогу – каля 100 даляраў. Гэта невялікія грошы. Але дзеля параўнаньня можна сказаць, што чэскія студэнты атрымліваюць такую ж стыпендыю. Ільля Глыбоўскі не чакае дапамогі ад дзяржавы: ён знайшоў сабе працу – электрыкам у метро, дзе атрымлівае каля 300 даляраў альбо 12 тысячаў кронаў у месяц. Гэтага хапае на жыльлё і ежу. Разам з яшчэ адной сям'ёй з Мінску Ільля здымае трохпакаёвую кватэру на ўскраіне Прагі ў васьміпавярховым панельным доме. Дагэтуль ён жыў на кватэры ў свайго чэскага знаёмага.

Ільля кажа, што ў Празе "жыцьцё больш вольнае, чым у Беларусі, але ён сумуе". Хацеў бы вярнуцца ў Беларусь, аднак ня мае такой магчымасьці...

Былыя сьледчыя пракуратуры Дзьмітры Петрушкевіч і Алег Случак, якія паведамілі, што Віктар Ганчар І Анатоль Красоўскі ня зьніклі, а іх забіў "эскадрон сьмерці", таксама цяпер знаходзяцца ў ЗША. Яны былі вымушаны пакінуць Беларусь пад пагрозай сьмерці. Нагадаем, што ў 2001 годзе пры нявысьветленых абставінах памёрлі два оперупаўнаважаныя, якія займаліся расьсьледаваньнем справы па зьнікненьні вядомых людзей…

Мне давялося зьвязацца з жанчынай, якая па палітычных матывах зьехала ў 2001 годзе ў Фінляндыю. Яна не захацела, каб яе прозьвішча называлася, бо якім чынам складзецца яе далейшы лёс – пакуль невядома. Ня выключана, што ёй давядзецца вярнуцца ў Мінск. Яе лёс у многім тыповы для тых, хто выехаў за мяжу без асаблівай увагі да іх асобы на радзіме. Мы размаўлялі пра тое, што адбылося з ёй пасьля перасячэньня мяжы. Два месяцы яна знаходзілася ў Хельсінкі ў лагеры для ўцекачоў. Жыла ў пакоі, дзе было сем чалавек: апрача яе – усе афрыканскага паходжаньня. Потым рускамоўных (беларусаў, украінцаў, расіянаў) адправілі на Поўнач краіны, дзе знаходзяцца тры вялікія лагеры для ўцекачоў. Умовы там цяжкія, вельмі халодна. Яе засялілі ў асобны пакой, але ўсе выгоды былі на калідоры. Яна атрымлівае дапамогу ў 250 даляраў на ежу – і больш нічога.Спрабавала ўладкавацца на працу, калі яшчэ жыла ў Хельсінкі, хацела прыбіраць у кватэрах. Але фіны – народ эканомны, кажуць: "Навошта нам прыбіральшчыцу наймаць, калі мы можам самі гэта зрабіць". Яна ня ведае, што будзе з ёй далей. Побач з ёй у асноўным расіяне і ўкраінцы і толькі адна пара з Маладэчна, якая выклікала ў нашай знаёмай вялікія падазрэньні, бо гэтыя муж і жонка задавалі ёй вельмі шмат пытаньняў па структуры БНФ, а самі ня ведалі нават прозьвішчаў лідэраў. Па яе меркаваньні, яны "касілі пад палітычных, але ня мелі да палітыкі ніякага дачыненьня". Сярод украінцаў і расіянаў шмат крымінальнікаў. Працэдура разгляду справы доўгая. Часта выклікаюць на допыты. Маёй знаёмай пашанцавала, бо яна здолела зьвязацца з групай Amnesty International, і ёй дапамагае прадстаўніца Фінскай групы Amnesty: прысутнічае на роспытах. Гэтая жанчына някепска арыентуецца ў беларускай сітуацыі. А ўвогуле, фіны не падзяляюць украінцаў, расіянаў і беларусаў (пра Беларусь тут наогул мала інфармацыі) – для іх гэта ўсё "рускія". Пасьля разгляду справы адпаведны орган прыме рашэньне – прадастаўляць прытулак альбо дэпартаваць. Па фінскіх законах даецца месяц, на працягу якога можна падаць апеляцыю ў судовыя інстанцыі, каб абскардзіць гэтае рашэньне. Але на практыцы ўлады гэтага тэрміну не вытрымліваюць – на восьмы дзень пасьля вынясеньня вердыкту прыязджаюць паліцэйскія, забіраюць уцекача і дэпартуюць. Мая знаёмая шкадуе, што зьехала ў Фінляндыю, а не ў Бельгію. Бо там, па словах тых, з кім яна знаходзіцца ў лагеры (а гэтыя людзі аб'ехалі ўжо не адну краіну), беларусам прасьцей атрымаць палітычны прытулак.

Ня варта думаць, што беларусам гэтак лёгка сёньня атрымаць статус уцекача за мяжой і многія гэтым карыстаюцца. дарэчы, былі выпадкі, калі грамадзяне іншых краінаў СНД наўмысна гублялі дакументы і выдавалі сябе за беларусаў. Да прыкладу, у Харкаве ўкраінцы надрукавалі сабе пасьведчаньні Беларускага Народнага Фронту з лукашэнкаўскім гербам. І на гэтым пагарэлі. Пытаньне прадстаўленьня прытулку рэгулюе Канвецыя ААН аб статусе ўцекачоў. Ёсьць азначэньне хто зьяўляецца ўцекачом: асоба, якая "ў сілу цалкам абгрунтаванай небясьпекі можа стаць ахвярай перасьледу па прыкмеце расы, веравызнаньня, грамадзянства, прыналежнасьці да пэўнай сацыяльнай групы альбо палітычных пераканаьнях".

Акрамя таго, кожная краіна рэгулюе пытаньне прадастаўленьня статусу ўцекача сваім унутраным заканадаўствам. У Беларусі таксама ёсьць "Закон аб уцекачах РБ", які прадугледжвае наданьне статусу ўцекача таму, хто яго запатрабуе. Ёсьць людзі, якія атрымалі такі статус, але іх няшмат, бо пра нашу краіну праходзіць у асноўным нелегальны транзіт.

Ёсьць палітычныя ўцекачы, а ёсьць палітычныя эмігранты – лідэры рухаў, партыяў. Статус палітычнага эмігранта прызначаецца пажыцьцёва. Урад той краіны, які прыняў палітэмігранта, прызначае пэўныя грашовыя выплаты. Палітычны ўцякач атрымлівае толькі від на жыхарства, і толькі пасьля пэўнага тэрміну, прадугледжанага ўнутраным заканадаўствам (5-7 гадоў) ён можа прэтэндаваць на атрыманьне грамадзянства. Палітычны ўцякач перасякае мяжу і на працягу 24 гадзінаў мусіць заявіць любой службовай асобе (напрыклад, паліцэйскаму), што ён хоча атрымаць прытулак. Далей такіх людзей размяшчаюць, адпаведна, у лагер альбо прыёмнік, дзе адбываецца праверка ягонай асобы. Праверкай займаюцца сьпецыяльныя інспектары, якія высьвятляюць – хто ён такі і на якой падставе просіць прадастаўленьня палітычнага прытулку. Шукаюць пацьверджаньня таму, што чалавек прыцягваўся да адказнасьці ці падвяргаўся небясьпецы ў сваёй краіне.

У выпадку, калі зьвесткі дадзеныя ўцекачом несапраўдныя, яго могуць дэпартаваць. Інсьпектары, якія займаюцца праверкай, ведаюць структуру Беларускага Народнага Фронту і іншых апазіцыйных партыяў: з якіх адзінак складаецца, хто зьяўляецца кіраўнікоў гэтых адзінак.

Трэба паважаць права кожнага чалавека на выбар. Добра, калі гэты выбар дабраахвотны, калі чалавек можа сам вырашаць, што яму лепш – застацца на радзіме ці зьехаць і працягваць у эміграцыі сваю дзейнасьць. Вадзім Лабковіч – адзін з першых палітычных вязьняў Беларусі. 3 жніўня 1997 году дзесяцікласьнік Вадзім Лабковіч са сттудэнтам-першакурсьнікам Аляксеем Шыдлоўскім сарвалі з флагштоку на будынку выканкаму ў Стоўбцах сьцяг, прыняты А.Лукашэнкам у якасьці дзяржаўнага, і вывесілі замест яго беларускі гістарычны, і да таго дзяржаўны, сьцяг. Сем месяцаў правёў Вадзім у сьледчым ізалятары. У яго былі ўсе падставы дзеля эміграцыі, але ён застаўся ў Беларусі. На пытаньне, чаму нікуды ня зьехаў, адказвае проста: "Не хачу!..". І такіх людзей на Беларусі шмат. Яны не імкнуцца за мяжу, а шчыра працуюць на тое, каб хутчэй прыйшоў час, калі з Беларусі ня трэба будзе зьязджаць ні ў пошуках лёгкага шчасьця, ні ў пошуках палітычнага прытулку.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.** (Вясна)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## ЭРА ЭЎРА

У 12 краінах Эўропы, у якіх жыве больш за 300 мільёнаў людзей, увайшлі ў абарот новыя грошы – эўра. Увядзеньне супольнай эўрапэйскай валюты гэта апэрацыя, якая ня мае прэцэдэнту ў сьвеце. Ніколі дагэтуль яшчэ ня здарылася, каб такая вялікая колькасьць дзяржаваў дабравольна адракалася ад часткі свае эканамічнае незалежнасьці, найважнейшым атрыбутам якой зьяўляецца нацыянальная валюта. Пасьля ўвядзеньня эўра ўрады 12 дзяржаваў страцілі магчымасьць уплыву на эканоміку сваіх краінаў шляхам рэгуляваньня працэнтных ставак. За іх вызначэньне адпавядае цяпер Цэнтральны Эўрапэйскі Банк у Франкфурце на Майне.

За ўвядзеньне супольнай эўрапэйскай валюты існуюць моцныя эканамічныя аргумэнты. Эўра спрычыніцца да лягчэйшага трансфэру капіталу, элімінуючы рызыку, зьвязаную з ваганьнем валютных курсаў. Зьменшацца таксама кошты банкаўскіх і капіталавых трансакцыяў, вынікаючыя зь існаваньня многіх нацыянальных валютаў. Экспэрты ацэньваюць, што ўдасца гэтакім чынам зэканоміць 17 мільярдаў даляраў у год. Пазытыўныя вынікі адчуюць таксама звычайныя грамадзяне, якім лягчэй будзе параўноўваць цэны ў розных краінах і купляць там, дзе таньней. Гэта азначае сур'ёзнае ўзмацненьне рынкавай канкурэнцыі ў маштабе цэлага кантынэнту.

Увядзеньне ў рынкавы абарот эўрапэйскай валюты адчыняе новы этап у рывалізацыі эўра й даляра. Папярэднімі гадамі, калі эўра было толькі віртуальнай валютай, якая выкарыстоўвалася выключна ў міжнародных фінансавых разьліках, ягоная пазыцыя была адносна слабой. Цягам апошніх трох гадоў эўра страціла ў стасунку да даляра амаль адну чвэрць сваёй вартасьці. У будучыні можа аднак быць падругому. Злучаныя Штаты Амэрыкі маюць усё большы дэфіцыт у замежным гандлі, а Эўропе характэрны большы экспарт, чым імпарт. Экспэрты прадугледжваюць, што ўвядзеньне супольнай валюты акажа станоўчы ўплыў на ўмацаваньне пазыцыі Эўропы ў эканамічным суперніцтве з ЗША.

Эканамічныя й фінансавыя вынікі ўвядзеньня ў абарот супольнай эўрапэйскай валюты не павінны засланяць факту, што маем тут дачыненьне перш за ўсё зь гістарычным палітычным рашэньнем. Эўра гэта ня толькі супольная эўрапэйская валюта. Эўра мае большае значэньне – адкрывае новы этап палітычнай інтэграцыі Эўропы. Адмаўленьне ад 12 нацыянальных валютаў сьведчыць пра вялікі прагрэс у будове новай эўрапэйскай сьвядомасьці ды зьяўляецца добрым прагнозам на будучыню. Супольная валюта будзе збліжаць Эўрапэйцаў ад Фінляндыі па Партугалію. Будзе мяняць іх сьвядомасьць і дапамагаць у наступных этапах эўрапэйскай інтэграцыі. Чакаецца, што псыхалягічны перелом, выкліканы ўвядзеньнем эўра, дапаможа зрабіць наступны гістарычны крок на шляху да эўрапэйскага адзінства. Будзе ім пашырэньне Эўразьвязу на наступныя краіны Цэнтральнай Эўропы.

Яцэк МАЗЯРСКІ /Камунікат/

---

## Спыніць пераслед Саюзу беларускіх пісьменнікаў

**Заява Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рашуча асуджае дзеянні ўладных структур, накіраваныя на метадычнае маральнае і фінансавае ўдушэнне пісьменніцкай арганізацыі.

Цягам апошніх пяці гадоў Саюз пісьменнікаў церпіць знявагі, абразы і здзекі. Спачатку забаранілі называцца Беларускім, затым адабралі маёмасць, пазбавілі ўсялякіх сродкаў для існавання і пастаянна ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі здзекваюцца з тых, хто складае гонар беларускай літаратуры, гонар беларускай нацыі. Вядомы культурна-асветніцкі асяродак сталіцы Дом літаратара ператварылі ў «раскіданае гняздо». Усё гэта робіцца тымі, хто, маючы ўладу, зацята змагаецца з аплотам беларушчыны, з беларускай мовай, на якой ствараецца пераважная бальшыня твораў нашых пісьменнікаў. Такія дзеянні інакш, як вандалізмам, не назавеш.

Сёньняшнія ўладары Беларусі! Пакайцеся перад Богам і людзьмі, вярніце нарабаванае і спыніце пераслед пісьменніцкай арганізацыі.

*******************************************

## Коласаўская вечарына ў Лондане

БелаПАН

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі Валерый Садоха ўзяў удзел у вечарыне, прысвечанай 120-й гадавіне з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. Мерапрыемства, якое прайшло на гэтым тыдні, было арганізавана Англійска-беларускім таварыствам пры ўдзеле беларускага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Вялікабрытаніі.

На вечарыне выступілі кіраўнікі бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане, сваякі паэта, чыталіся ўрыўкі з паэмы «Новая зямля» ў перакладзе паэткі Веры Рыч. Прайшоў невялікі канцэрт, у якім узялі ўдзел беларускія дзеці, што знаходзяцца ў Вялікабрытаніі па лініі няўрадавай арганізацыі «Сакавік».

=====================================

## ПРАЗ ГОД ДЛЯ ПАЕЗДКІ Ў ПОЛЬШЧУ СПАТРЭБІЦЦА ВІЗА

Польшча можа ўвесьці візавы рэжым да Беларусі не раней 2003 году, пра што стала вядома 30 студзеня падчас кансультацыяў паміж міністэрствамі замежных справаў Беларусі й Польшчы на ўзроўні кіраўнікоў палітычных дэпартамэнтаў. Як адзначыў прэсавы сакратар беларускага МЗС Павал Латушка, пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму адносна Беларусі будзе пастаўлена польскім бокам на заключным этапе перамоваў з Эўразьвязам аб далучэньні Польшчы да ЭЗ.

=====================================

# Малое інтэрвью зь Міронам

Давялося мне неяк па сваіх гаспадарчых справах выправіцца цягніком у дарогу. Зразумела, пакідаць цёплую, утульную кватэру неахвота, але ж трэба калі-нікалі і на лецішча зьезьдзіць.

У паўпустым вагоне ўвагу маю прыцягнуў чалавек, які сядзеў ля вакна. Позірк яго быў скіраваны кудысь далёка, і па ўсяму відаць было, што галава яго забітая невясёлымі думкамі.

На першы погляд – звычайны пасажыр. Але не зусім звычайны, бо гэта быў сам Мірон, жывы і здаровы.

Уладкаваўшыся побач, мы абмяняліся прывітаньнямі, ад чаго ён крыху павесялеў. Справа ў тым, што мы даўно ведаем адзін аднаго, і прывітаньне ў нас заўжды аднолькавае:

– Жыве Беларусь!

– Жыве!

Пасля абмену навінамі я прапанаваў яму даць мне інтэрвью. Пасля працяглай паўзы Мірон пагадзіўся.

* * *

Барыс: З чаго б нам пачаць гэтае незапланаванае інтэрвью? Перш-наперш адкажы: куды гэта нялёгкая нясе ў такую непагадзь?

Мірон: А хто табе сёньня праўду скажа?

Б: А, зразумела: усё, што вакол твайго імя, павінна быць ахутана таямніцай?

М: А ты сам паразважай: калі сёньня на Беларусі існуе рэальная пагроза фізічнай ліквідацыі "неугодных" існуючаму рэжыму людзей, то хочаш-не хочаш, задумаесься: калі, крый Божа, што здарыцца, – хто будзе гадаваць тваіх дзяцей? Хто і якое дасьць ім выхаваньне? Які светапогляд гвалтам будзе ім навязаны?

Я люблю сваіх дзяцей, і мае дзеці – гэта мае праблемы. І пакуль я жывы, я нікому не дазволю зламаць іх душы. Але ўсё гэта толькі вяршыня айсбэргу. Мяне хвалююць праблемы фізічнага і духоўнага выхаваньня ўсіх беларускіх дзяцей, бо яны хутка падрастуць і стануць паўнапраўнымі грамадзянамі сваёй краіны. І я не магу быць абыякавым да таго, у якім асяроддзі будуць жыць мае дзеці. Ты не горш за мяне ведаеш і бачыш, на якіх "каштоўнасьцях" пры існуючым антыбеларускім рэжыме выхоўваецца наша моладзь.

Ніхто ня зможа стаць шчаслівым у разбэшчаным грамадзтве, дзе будуць панаваць гвалт і нянавісьць, зайздрасьць і ашуканства.

Зірні на нашых "новых" беларусаў, якія нічога рэальнага не вырабляюць, а шыкуюць за кошт розьніцы ў курсах валютаў. Чаму ў іхніх кватэрах жалезныя дзьверы, а на вокнах моцныя краты? Гэта што: іх доўгачаканае шчасьце? Не! Такое не для мяне!

Б: Ты чамусьці засярodзіў сваю ўвагу на моладзі, а што скажаш пра старэйшае пакаленьне?

М: Рэдка здараецца так, каб чалавек сталага ўзросту мяняў свой светапогляд. Вось чаму нам сёньня трэба весьці актыўную барацьбу за правільнае духоўнае выхаваньне нашых нашчадкаў. За імі будучыня Беларусі.

Б: На гэтую тэму можа быць шмат пытаньняў, але давай спярша вернемся да пачатку і высьветлім: адкуль узнікла самое паняцьце – Мірон?

М: О-о, братка! Гэта доўгая і не вельмі вясёлая гісторыя, пра якую трэба пісаць асобна.

Б: Добра, напішам калі-небудзь і гэту гісторыю, але адкажы: як ты стаў Міронам?

М: Мірон – не прафэсія; Мірон – лад жыцьця. Ім не становяцца, ім нараджаюцца. Бацька мой быў перадавіком сельскай гаспадаркі, да таго ж – камуністам. Ён забараняў мне гуляць з аднагодкамі ў вёсцы і побач з трактарным паркам толькі каб, крый Божа, ніхто на вёсцы не абвінаваціў яго, што сына бачылі там, дзе штосьці зьнікла ці было сапсавана. Вось і даводзілася мне разам зь сябрам бавіць вольны час у лесе за вёскай. Там мы рабілі зямлянкі, будавалі розныя хаткі як на зямлі, так і на дрэвах. Па вечарах распальвалі вогнішча, паклі ў зале бульбу, смажылі сала. Вось так, на свежым лясным паветры, пад разнагалосыя сьпевы птушак і старакатаньне конікаў, удалечыні ад цывілізацыі і ўздзеяньня на псыхіку агульнаграмадзкай думкі і фармаваўся мой сьветапогляд.

Чытаць я навучыўся яшчэ за год да першай клясы. Шмат чытаў навукова-папулярнай літаратуры. Асабліва любіў чытаць казкі і розныя кніжкі на беларускай мове. На рускай было цяжэй, спачатку спатыкаўся амаль на кожным слове.

З самага дзяцінства не давалі спакою розныя думкі. Чаму нашае жыцьцё такое шэрае? Чаму нельга рабіць тую ці іншую справу, ад якой усім было б толькі лепш? Калі вучыўся ў школе, то адчуваў, што нам штосьці не дазваляюць ведаць. Мяне хвалявалі шматлікія пытаньні, адказы на якія я шукаў у розных кніжках, але не заўсёды знаходзіў. Мяне раздражняла яшчэ і тое, што тыя пытаньні, акрамя мяне, нікога не цікавілі.

Вучыўся, як і шмат хто: ездзіў на розныя раённыя алімпіяды абараняць гонар роднай школы, і ў той жа час да маіх бацькоў раз-пораз прыходзілі настаўнікі з-за пропускаў заняткаў, а часам і з-за дрэнных адзнакаў. У маім дзёньніку было ўсё – і пяцёркі, і двойкі…

Сярэднюю школу скончыў амаль без троек. А ўжо наступную навучальную ўстанову – на адны пяцёркі па ўсіх дысцыплінах. І справа тут ня столькі ўва мне, колькі ў выкладчыках і асяроддзі, у якім давялося жыць.

Ад таго, каб зрабіцца падобным да ўсіх, ператварыцца ў намэнклятурную адзінку ў шэрай людзкой масе, мяне ўратавала прырода, пра якую я ўжо казаў.

Так, стоп, штосьці пад грук колаў мяне панесла на ўспаміны. Пра ўсе тагачасныя роздумы, крыўды і рэдкія радасьці можна напісаць цэлую аўтабіяграфічную кнігу. Каб не марнаваць дарэмна час, перанясемся адразу ў пару, калі да нас прыйшла перабудова.

Беларускаму народу былі вернутыя нацыянальны сьцяг і гістарычны герб "Пагоня".

Часьцей стала гучаць беларуская мова.

Палітыка ўрада скіравалася на адраджэньне і развіцьцё нацыянальнай культуры. Дыхаць стала неяк лягчэй. Я зразумеў, што менавіта гэта павінна стаць першым этапам будаўніцтва нашай шчасьлівай будучыні. Я радаваўся, як малое дзіця, і адчуваў вялікі эмацыянальны і духоўны ўздым. Толькі цягнулася гэта нядоўга. На нашыя галовы зваліўся "усенароднаабраны" і, як пярун сярод чыстага неба, ягоны кляты рэферэндум. Усё вярнулася "на круги своя".

У мяне быў шок… Зразумець такое можа, да прыкладу, той, хто з нейкай прычыны страціў самага каханага чалавека.

Сярод белага дня пацямнела ўвачу; у макаўку пякло сонца, а мяне біла ліхаманка; стаяла цудоўнае надвор'е – жыві і радуйся, але час для мяне спыніўся. Нікога не заўважаючы, я ішоў некуды; галава, як пчаліны рой, гудзела ад думак і пытаньняў. Чаму? Чаму людзі адмаўляюцца ад свайго шчасьця? Чаму не жадаюць жыць у ладзе і згодзе паміж сабою і з навакольным асяроддзем?

Каб давесьці, што ня ўсе галасавалі за "ўсенароднаабранага", каб заявіць на ўвесь белы свет, што беларус яшчэ жывы, што яго не зламаюць ніякія выпрабаваньні, у гэты няпросты для мяне час неяк само сабою прыйшло рашэньне – вярнуць бел-чырвона-белы сьцяг народу. І лунаць ён заўсёды павінен у ветранай вышыні высока над зямлёй нашых славутых продкаў, многа вышэй за іншыя, гвалтам нам навязаныя сімвалы.

Б: А дзе ты ўзяў сьцяг для сваёй першай акцыі?

М: Ён быў зроблены вось гэтымі рукамі на ўзор копіі, разарванай у Менску Ціцянковым.

Б: Пачакай, пачакай! Ты кажаш, была разарвана копія? А дзе ж тады арыгінал?

М: А ты ўпэўнены, што прыйшла пара пра гэта казаць?

Б: Я ўсё зразумеў. Так, і на чым мы спыніліся?

М: Я з усімі падрабязнасьцямі распрацаваў план сваёй першай акцыі, а тут, як на тую бяду, з паліц у крамах зьнікла белая і чырвоная тканіна. Што рабіць? Уся мая існасьць ірвалася да актыўнай дзейнасьці, а зрабіць сьцяг не было з чаго. Выйсьце знайшлося. Узяў новую белую прасьціну, перакроіў яе ў прапорцыі 1:2, старанна разьлінаваў на тры аднолькавыя паласы, нацягнуў палотнішча на расьцяжках у сваім двары, асьцярожна прафарбаваў сярэднюю паласу якаснай і прыгожай чырвонай фарбай. Калі хочаш пасьмяяцца, магу распавесьці, што гэты першы мой самаробны сьцяг зьбіў з панталыку апэратыўных работнікаў крымінальнага вышуку. Пад падазрэньне трапілі ўсе мясцовыя мастакі, як здаровыя, так і калекі. Большасьць зь іх была дастаўленая ў мясцовы РАУС на допыт.

Але вярнуся да твайго пытаньня.

…Атрымаўся прыгожы, чысьцюткі бел-чырвона-белы сьцяг. Уяўляеш: добрае летняе надвор'е, блакітнае неба і чыстае сонечнае сьвятло, што пераліваліся на палотнішчы. Знаходзячыся побач з гэтай прыгажосьцю, я адчуваў вялікую, ні з чым не параўнальную, радасьць, і ўся мая існасьць поўнілася такім духоўным уздымам, што на той момант я гатовы быў горы зьвярнуць.

На нейкі час я аж зьнямеў ад велічнасьці таго, што стварыў сваімі рукамі. Гэта было ня проста нейкае палотнішча, гэта быў сімвал нашых слаўных продкаў, сімвал нашай гісторыі.

І дзе гэты сьцяг ні разьмяшчай, з чым ні параўноўвай – ён заўсёды будзе рэзка вылучацца сваёй чысьцінёй, гарманічнасьцю колераў і прыгажосьцю. Такім сьцягам нельга не ганарыцца! А ведаеш, чаму служкі існуючага антыбеларускага рэжыму так яго баяцца?

Б: Ну-ну, і чаму ж?

М: Ды таму, што на ім, як на лакмусавай паперы, адразу праявіцца ўвесь бруд, з дапамогай якога гэтыя прайдзісьветы трымаюцца пры ўладзе. Ім больш даспадобы імі ж прыдуманы сьцяг чырвоназялёнага колеру.

Чырвонага – бо добра запырсканы крывёю ахвяраў. А зялёнага – таму што, напіўшыся "за жэншчын" да парасячага віску, можна не баяцца за зеляньні на парадных касьцюмах, валяючыся на здратаванай траве.

Давёўшы свой народ да галечы, ні на якія карысныя для грамадзтва справы яны ўжо ня здатныя. Адзіная светлая дэталь на іхнім сьцягу – беларускі арнамэнт, які ўяўляецца мне сімвалам надзеі на тое, што беларускі народ, урэшце рэшт, абудзіцца ад летаргічнага бальшавіцкага сну, страсе са сваіх працавітых плячэй розных там паразітаў-палітыканаў, і на ўвесь белы свет з гонарам заявіць, што і беларусы завуцца людзьмі. Менавіта з-за гэтага арнамэнту я ніводнага разу не дазволіў сабе пазьдзекавацца з бээсэсэсэраўскалукашэнкаўскага сьцягу. Гэта сімвал адурманенага беларускага народу. Адурманенага мэтанакіраваным "красноречием" нашага "усенароднаабранага" Атрымліваецца, што я стаўся нашмат больш эмацыянальна стрыманым і духоўна выхаваным, чым розныя ціцянковы, якія дэманстравалі сваю нікчэмнасьць усяму свету, калі, выскаліўшыся перад аб'ектывамі відэакамераў, разрывалі на шматкі копію нашага нацыянальна-гістарычнага сьцяга.

Зьдзейсьніўшы такое злачынства, яны лічаць сябе прыстойнымі людзьмі. Калі гэта так, то ў параўнаньні зь імі я – анёл, бо нічога не псую і не ламаю, а толькі прапагандую нацыянальна-гістарычныя сімвалы свайго народа. Якраз гэта найбольш і псуе настрой "вернаму" чынавенству. А каб як-небудзь абяліць сябе ў вачах грамадзкасьці, яны зробяць усё магчымае, каб выставіць мяне ў ролі д'ябла, як гэта ўжо было зроблена з З.Пазьняком.

Б: А ты не мог бы падзяліцца сваімі ўспамінамі пра тое, як здзяйснялася першая акцыя?

М: Пачакай крышачку, не сьпяшайся. Ведаеш, што атрымліваецца?

Б: Што?

М: Усё наша інтэрвью нейкае пустое, а ведаеш, чаму?

Б: І чаму?

М: А таму, што па кожным тваім пытаньні можна напісаць асобны артыкул, а то і цэлую кнігу, бо кожная акцыя – асобная гісторыя. Халуіприслужнікі існуючага рэжыму здымалі, зрывалі, палілі і нават расстрэльвалі мае сьцягі.

Б: Добра, калі не хочаш адказваць на гэта пытаньне, адкажы на другое: якія яшчэ пытаньні, акрамя вяртаньня народу яго спрадвечных сімвалаў, цябе хвалююць?

М: Справа тут, мой дарагі дружа, не ў тым, хачу я табе адказваць альбо не, а ў тым, што чытачы ня вельмі любяць чытаць вялікія артыкулы. Прапаганда і вяртаньне народу яго спрадвечных сімвалаў, нацыянальнай культуры і рэальнай гісторыі, – гэта кропля ў моры ў параўнаньні з тым, што яшчэ трэба зрабіць. Наўрад ці я змагу пералічыць усе праблемныя пытаньні, якія мяне

хвалююць і па якіх ёсьць адпаведныя распрацоўкі. Адукацыя і адпачынак, дэмаграфія і экалёгія, рэлігія і космас, навука і акультызм, браты нашы меншыя і іншапланяцяне, армія і быт, шлюб і перарываньне цяжарнасьці, суіцыд і крымінал, палітыка рэжыму і апазіцыя, і г.д., і г.д…

Была б такая магчымасьць, я па кожным з гэтых пытаньняў даў бы табе інтэрвью. Але галоўнае пытаньне вось у чым: чаму наш народ свядома не хоча жыць лепш? Чаму так падабаецца жыць у дэмаралізаваным грамадзтве, дзе кожны другі подзьвіг – ліквідацыя наступстваў першага?

Б: Прыхільнікі існуючага рэжыму часта вінавацяць радыкальную апазіцыю ў нацыяналізме. Ты лічыш сябе нацыяналістам?

М: Па паходжаньні я беларус, і жыву на зямлі сваіх продкаў. А калі ў народа, часьцінкай якога мы з'яўляемся, розныя прайдзісьветы ад улады нахабна адбіраюць родную мову, замоўчваюць слаўную гісторыю нашых продкаў альбо непазнавальна скажаюць яе для дасягненьня сваіх дробнакарысьлівых мэтаў, калі нявечаць нацыянальную культуру, замест якой прышчэпліваюць пачварныя самаробныя сурагаты (БПСМ, дажынкі ад слова "дажыліся"), дык кожны псіхічна здаровы чалавек будзе супрацьстаяць гэтаму вар'яцтву. Нацыянальнасьць існуе да той пары, пакуль існуе нацыянальная мова. Пакуль на Зямлі жыве хоць адзін беларус, ён будзе змагацца за свае правы. У адваротным выпадку Беларусь давядзецца перайменаваць у "северо-западный край". Французы размаўляюць па-французску, немцы – па-нямецку, палякі – па-польску, рускія – па-руску! – гэта нармальна, а калі беларус падасьць голас на роднай мове – зь яго зьдзекуюцца, ім пагарджаюць.

Б: Ты ўхіліўся ад простага адказу на пытаньне.

М: Што датычыць асабіста мяне, то я звычайны, псіхічна здаровы мужык-беларус, вось і ўвесь мой нацыяналізм. А кім тады лічыць тых, хто гвалтам навязвае нам культуру іншай краіны?

Б: А як ты ставішся да тых беларусаў, якія ратуюць за ўсталяваньне расейскай культуры на Беларусі?

М: Ну як можна ставіцца да чалавека, які, да прыкладу, адракаецца ад роднай матулі ў крытычны для яе момант жыцця? Гэта не людзі.

Б: Чаму так рэзка?

М: Гэта яшчэ мякка сказана.

Б: Ці падазрае цябе хто-небудзь у тым, што ты робіш?

М: Пакуль што на маю ролю падазраюцца некалькі чалавек. Ня трэба быць вялікім аналітыкам, каб зразумець, што сёньня далёка ня кожны чалавек будзе рызыкаваць сваім жыцьцём у імя нейкіх ідэалаў, ды і здароўе ня кожнаму дазволіць балансаваць паміж жыцьцём і сьмерцю ў ветранай вышыні, без усялякай страхоўкі побач з электратрасай напругай у сотню тысяч вольтаў.

Б: З усяго вынікае, што ты ня ведаеш пачуцця страху?

М: Як бы не так! Хутчэй, наадварот: я, можа, баюся больш за іншых. Нічога не баяцца толькі асобныя псіхічна хворыя людзі. Гэта ня іхняя віна, гэта – іхняя бяда. Я ж адношуся да звычайных людзей.

Б: І чаго ты больш за ўсё баісься?

М: Баюся шмат чаго. Я ад гэтых страхаў нават пасівеў раней часу. Баюся, што не дажыву да тае пары, каб пабачыць беларусаў шчасьлівымі. Ну ня хочуць яны, пры сучасным узроўні сьвядомасьці, людзьмі звацца. Перасялі іх зараз у рай, то яны і там доўга не затрымаюцца: лашыкуюць нейкі час, а потым вернуцца да свайго сучаснага існаваньня. Бо ім так лепш, яны прызвычаіліся, каб за іх хтосьці думаў і падганяў іх.

Так, я баюся, баюся, што мае дзеці, як бы я іх не выхоўваў, ніколі ня будуць шчасьлівымі, жывучы ў хворым грамадстве пры хворым навакольным асяроддзі.

Б: Гэта ўсё зразумела. А як ты адчуваеш сябе пад час правядзеньня сваіх акцый?

М: Я не фанатык, я просты мужык. Напярэдадні ў маей галаве сапраўдная каша. Бываюць такія думкі: і навошта мне ўсё гэта здалося? Можна сарвацца з ветранай вышыні і разьбіцца насьмерць; можна жыўцом згарэць ад электранапругі; можна трапіць у рукі праваахоўных органаў і страціць як свабоду, так і здароўе.

Дзеці застануцца бяз бацькі, хто ім дапаможа? Якое выхаваньне і якія погляды на жыцьцё ім навяжуць? Але кожны раз прыходжу да высновы: ніхто, акрамя цябе, ня будзе змагацца за шчасьце тваіх дзяцей, твайго народа, тваёй Радзімы!

Пад час правядзеньня акцыяў я навучыўся адключаць пачуцьцё страху. Страх зьнікае, застаецца халодны разлік сваіх фізычных магчымасьцяў. Там, у ветранай вышыні, усё намнога прасьцей, чым на зямлі сярод людзей. Там толькі ты і сьмерць, якой ты глядзіш проста ў вочы. Там усё па справядлівасьці і без падману: альбо ты, альбо яна.

Б: А як ты ставісься да сваёй славы?

М: А на халера мне тая слава, калі з маўклівай згоды большасьці беларусаў розныя прайдзісьветы штурхаюць нашых дзяцей у змрочнае і трывожнае сярэднявечча.

* * *

Цягнік спыніўся ля майго прыпынку і я пасьпяшаўся да выхаду, а ў паўпустым вагоне застаўся са сваімі думкамі Мірон. У яго адабралі маёмасьць, пазбавілі гарадзкой прапіскі, юрыдычна зьліквідавалі ягоную сям'ю, адабралі родную мову і зямлю продкаў, пазбавілі нацыянальнай культуры яго дзяцей, але дух ягоны не зламалі.

Ён нікому не падпарадкуецца; ён не адпрацоўвае нічыіх грошай, ён проста робіць тое, што павінен рабіць кожны нармальны чалавек у цяжкую для Радзімы гадзіну; ён заве беларусаў за сабою да змаганьня за светлую будучыню сваіх нашчадкаў. Мірон – гэта ўвасабленьне легендарнага, не скарыўшагася існуючаму дыктатарскаму рэжыму простага вольналюбівага мужыка-беларуса.

**Запісаў Б. Барысаў** (Vitinfa)

## "Правы погляд" як альтэрнатыва беларуска-расейскай мадэлі Лукашэнкі

**Юрась Карманаў** /Радыё Рацыя/

У Маскве знаходзілася дэлегацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якая завяршае кансультацыі з Саюзам правым сілаў Расеі адносна канцэпцыі беларуска-расейскіх дачыненьняў "Правы погляд". Як патлумачыў Рацыі адзін з распрацоўшчыкаў праекту - дэпутат Дзярждумы Вадзім Бондар, факт зьяўленьня канцэпцыі павінен стварыць альтэрнатыву той мадэлі узаемадачыненьняў, якую Крамлю навязаў Аляксандар Лукашэнка. Распрацоўшчык "Правага погляду" зь беларускага боку - намесьнік старшыні АГП Яраслаў Раманчук - паведаміў, што падпісаньне дакументу адбудзецца ў Менску, у часе лютаўскага візыту дэлегацыі СПС на чале з Барысам Нямцовым.

Канцэпцыя правых, якая дэталёва распрацоўвалася цягам апошніх двух месяцаў, абяцае быць грунтоўным дакумэнтам, які ахоплівае пазіцыі АГП й СПС датычна дзяржавы, бясьпекі, эканомікі, сацыяльнае дапамогі, глябалізацыі й мясцовага самакіраваньня. У праекце дакумэнту, тэкст якога не афішуецца, контурна акрэсьліваюцца прынцыпы, на якіх могуць будавацца беларуска-расейскія адносіны.

Як патлумачыў распрацоўшчык канцэпцыі зь беларускага боку - намесьнік старшыні АГП Яраслаў Раманчук, зроблена спроба праартыкуляваць супольныя інтарэсы Беларусі й Расеі, зыходзячы з прынцыпу партнэрства. У дакумэнце Беларусь фігуруе як незалежная й сувэрэнная краіна, якая шукае цывілізаваных шляхоў супрацы з суседам.

Паводле Яраслава Раманчука, у эканамічным блёку "Правага погляду" бакі выказваюцца за лібэральныя рэформы й заяўляюць пра жаданьне максымальна інтэграваца ў сыстэму міжнародных эканамічных арганізацыяў – WTO (Усясьветную гандлёвую арганізацыю), Эўрапейскі манітарны зьвяз і г.д.

У разьдзеле "Дзяржава" канцэпцыяй дэкляруецца прынцып падзелу ўлады. Спадар Раманчук, які правёў шэраг кансультацыяў з крамлёўскім кіраўніцтвам, упэўнены, што "Правы погляд" зацікавіць вышэйшае расейскае кіраўніцтва, якое толькі пачало адбудоўваць мадэль узаемадачыненьняў зь беларускай Адміністрацыяй.

Афіцыйная прээзэнтацыя "Правага погляду" на беларуска-расейскія стасункі павінна адбыцца ў часе візыту ў Беларусь дэлегацыі Саюзу правых сілаў Расеі на чале з Барысам Нямцовым. Візыт запланаваны на канец лютага - пачатак сакавіка. У часе візыту мусіць быць падпісана дамова пра супрацу паміж АГП і СПС.

З расейскага боку працоўную групу "Правага погляду" ўзначаліў сябра фэдэральнага палітсавету Саюзу правых сілаў Уладзімер Мао. Як патлумачыў адзін з распрацоўшчыкаў праекту - дэпутат Дзярждумы Вадзім Бондар, факт зьяўленьня канцэпцыі павінен стварыць альтэрнатыву той мадэлі ўзаемадачыненьняў, якую Крамлю навязаў Аляксандар Лукашэнка. Пры гэтым Вадзім Бондар адзначыў, што матывацыі ў расейскага й беларускага бакоў былі розныя: беларусы з АГП хацелі, каб СПС праартыкуляваў сваё стаўленьне да Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў; расейцам з СПС трэба ведаць, як ставіцца да выбараў у беларускарасейскі парлямэнт.

**В.Б.:** - Сейчас, после выборов Лукашенко, беларусы хотели бы более чёткого отношения политических сил России к белорусской ситуации: кто-то будет поддерживать их, или всё - они уже нам не партнёры. Мы, со стороны СПС, это инициировали потому, что есть очень большая проблема: скоро ожидаются выборы в белорусско-российский парламент. Нам нужно определиться. Насколько Беларусь и её руководство будет соответствовать этому "Правому взгляду" в российско-белорусских отношениях, тем требованиям, которые мы выставили, - от этого и будет зависеть наша позиция на выборах.

У чацьвер у Маскве адбудуцца канчатковыя кансультацыі АГП з СПС адносна канцэпцыі "Правага погляду". "Дашліфоўваць" дакумэнт у расейскай сталіцы будзе выканаўчы дырэктар АГП Яўген Лабановіч, які заявіў.

**Я.Л.:** - Пытаньне ўзаемаадносінаў Беларусі й Расеі - гэта пытаньне, на якім спэкулююць Лукашэнка ў Беларусі й левыя, пракамуністычныя, сілы ў Расеі. У часе нашых кантактаў з Саюзам правых сілаў Расеі мы прыйшлі да высновы, што нельга агульна адмаўляцца ад супрацоўніцтва з расейцамі й бесьперапынна называць Расею імпэрыяй. Мы лічым, што трэба працаваць і з расейцамі. У разьвіцьцё гэтага й было вырашана распрацаваць канцэпцыю "Правага погляду" на беларускарасейскія дачыненьні.

**RR:** - Ці спадзяецеся Вы на тое, што канцэпцыя СПС і АГП можа стаць для Крамлю альтэрнатывай той мадэлі, якую цяпер актыўна рэтраслюе афіцыйны Менск у асобе Аляксандра Лукашэнкі?

**Я.Л.:** - Мы вельмі на гэта спадзяёмся. Пра гэта, магчыма, зробіць заяву Барыс Нямцоў у часе візыту ў Менск.

Назіральнікі прагназуюць ужо, што на тле скандалаў з расейскімі інвэстарамі, якія так і не атрымалі доступу да беларускай маёмасьці, альтэрнатыўны погляд на беларуска-расейскія адносіны здольны стаць для Крамлю яшчэ адным аргумэнтам у размовах з Лукашэнкам.

## Гродзенскія школьнікі паедуць у Нью-Ёрк

Чацвёра школьнікаў гродзенскай школы-ліцэя № 1 будуць прэзентавацьБеларусь на экалагічнай канфэрэнцыі ў Нью-Ёрку. Кандыдаты былі адабраныя ў рамках экалагічнага праекту "Забруджванне натуральных вадаёмаў у Беларусі", які ладзіцца гродзенскай арганізацыяй «NGO Madem». З 26-ці кандыдатаў толькі чацвёра навучэнцаў старэйшых класаў прайшлі ўсе этапы конкурсу (эссэ, плакат на экалагічную тэматыку, гутарка на англійскай мове). Канферэнцыя распачне сваю працу 26 красавіка 2002 года, у міжнародны Дзень Зямлі.

Праект "Забруджванне натуральных вадаёмаў у Беларусі" – гэта праграма абмену паміж школьнікамі Беларусі і ЗША з мэтай навязвання кантактаў і абмену досведам у галіне экалогіі. Праграма рэалізуецца «NGO Madem» з 1993 года. Кожны год у Беларусь прыязджаюць амерыканскія школьнікі, а беларускія старшакласнікі едуць у Амерыку. Зараз гродзенцы ўжо рыхтуюцца да прыезду калегаў з ЗША, які адбудзецца 28 сакавіка. Час, які яны правядуць у Беларусі, запоўнены экскурсіямі, сустрэчамі, паездкамі ў Белавежскую пушчу, Мінск. Запланаваны візіт ў Гродзенскі экалагічны камітэт, пасадкі дрэваў разам з гродзенскімі школьнікамі.

Гродзенская арганізацыя «NGO Madem» займаецца развіццём Internet-тэхналогій у Беларусі. У прыватнасці, праводзіць шматлікія семінары, адукацыйныя праграмы для навучэнцаў і настаўнікаў сярэдніх школ і г. д. У 1999 годзе на базе арганізацыі быў адкрыты Internet-Цэнтр. Кантактны тэлефон у г. Гродна: (0152)31-32-57 – Валянціна Суворына.

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Год Беларускі**, 2002, гадавік №3, Крынкі, Польшча. 249 бач.
2. **Зямля св. Лукі**, Алесь Чобат. 2002, Крынкі, Польшча. 211 бач.

# Згвалчаныя мільёны немак — міф ці праўда пра 1945 год?

Дэніел ДЖОНСАН, The Times

*Як сцвярджае ў сваёй новай кнізе ваенны гісторык Энтані Бівар, оргія гвалтаванняў з боку Чырвонай Арміі ў дні агоніі нацысцкай Германіі мела значна большыя маштабы, чым меркавалі раней. Бівар, аўтар бестселера "Сталінград", кажа, што савецкія войскі згвалцілі, апроч мільёнаў немак, таксама і вялікую колькасць рускіх і польскіх жанчын, якія былі вязнямі канцэнтрацыйных лагераў. Такі размах недысцыплінаванасці і раззбэшчанасці вайскоўцаў Чырвонай Арміі выявіўся, калі аўтар вывучаў савецкія архівы для напісання сваёй кнігі «Берлін», якую апублікуе ў красавіку гэтага году выдавецтва* Viking.

Энтані Бівар, які атрымаў адукацыю ў ваеннай вучэльні ў Мандхерсце і служыў у элітным 11-ым гусарскім палку прынца Альберта, заяўляе, што дэталёвыя звесткі аб паводзінах савецкіх салдат вымусілі яго нават перагледзець свае погляды на прыроду чалавека. «Калі даўней я з лёгкай іроніяй успрымаў ідэю аб тым, што бальшыня мужчын – патэнцыйныя гвалтаўнікі, дык цяпер мусіў прыйсці да высновы, што пры адсутнасці жорсткай дысцыпліны ў войску мужчына са зброяй, разлютаваны пасля двух ці трох гадоў вайны, сапраўды робіцца патэнцыйным гвалтаўніком», — заявіў ён выдаўцу сваёй кнігі.

Як прызнаецца Энтані Бівар, ён быў моцна ўзрушаны адкрыццём, што рускіх і польскіх жанчын і дзяўчат, якіх вызвалялі з канцэнтрацыйных лагераў, гвалтавалі таксама. «Гэта істотна пахіснула маё ўяўленне, што салдаты скарыстоўвалі гвалт як форму помсты немцам», — патлумачыў ён.

«На той час на тэрыторыі Германіі рускія салдаты ставіліся да жанчын амаль як да «жывога трафею» — яны лічылі, што паколькі яны вызваляюць Еўропу, то могуць паводзіць сябе, як ім захочацца. Гэта вельмі трывожна, бо пачынаеш усведамляць, што цывілізацыя – рэч жахліва павярхоўная, і яе фасад можа абляцець вельмі хутка».

Высокая рэпутацыя Э.Бівара як гісторыка гарантуе, што яго сцвярджанні ўспрымуць усур'ёз. Кніга «Сталінград» атрымала высокую ацэнку і заслужыла некалькі прэстыжных прэмій па гісторыі. Аднак яго аповед пра аблогу і ўзяцце Берліна павінен выклікаць больш спрэчак. «Шмат у якіх адносінах, — піша ён, — лёс жанчын і дзяўчат у Берліне быў горшы, чым лёс салдат, якія галадалі і пакутавалі ў Сталінградзе».

Каб зразумець, чаму гвалтаванне ў Германіі было унікальна жахлівым, неабходна звярнуцца да кантэксту. Аперацыя «Барбароса», нацысцкі напад на СССР у 1941 годзе, стала пачаткам самага крывавага канфлікту ў сусветнай гісторыі. Сёння лічаць, што болей за 30 мільёнаў грамадзянаў Савецкага Саюзу загінулі ў гады вайны, з іх болей за 3 мільёны свядома замарылі голадам у нямецкіх канцлагерах для ваеннапалонных. Немцы не выказвалі да іх і да насельніцтва акупаваных земляў ніякай літасці, таму і не маглі чакаць літасці ў адказ. Але яны таксама панеслі немалыя людскія страты. У адной толькі бітве за Берлін загінулі або пазней памерлі ў палоне болей за мільён нямецкіх салдат і яшчэ сама менш 100 тысяч цывільных асобаў. Чырвоная Армія страціла пры штурме гораду болей за 300 тысяч салдат. Аднак варта зазначыць, што на 30 мільёнаў ахвяраў вайны з савецкага боку прыпала 7 мільёнаў забітых немцаў. Розніца істотная.

На жахлівым фоне разбурэнняў і стратаў, зазнаных акупаванымі рэгіёнамі СССР, Сталін і яго генералы апраўдвалі і нават ухвалялі гвалт, прычым не толькі ў адносінах да нямецкай нацыі, але таксама і да іхніх хаўруснікаў — Венгрыі, Румыніі і Харватыі. Калі югаслаўскі камуніст Мілаван Джылас заявіў пратэст Сталіну, дыктатар выбухнуў злосцю: «Як вы не можаце зразумець салдата, які прайшоў тысячы кіламетраў праз кроў, полымя і смерць і хоча пазабаўляцца з жанчынай ці ўзяць сабе якую-небудзь драбязу?» А калі нямецкія камуністы засцерагалі яго, што гвалтаванні адварочваюць ад іх насельніцтва, Сталін ускіпеў: «Я нікому не дазволю ўтаптаць у бруд высокую рэпутацыю Чырвонай Арміі!»

Гвалтаванні пачаліся адразу, як толькі ў 1944 годзе Чырвоная Армія ўвайшла ва Усходнюю Прусію і Сілезію. Шмат у якіх гарадах і паселішчах была згвалчаная кожная жанчына ў веку ад 10 да 80 гадоў. Аляксандр Салжаніцын, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, у той час капітан артылерыі, перадаў гэты жах у сваёй паэме «Прускія ночы», напісанай белым вершам: «*Маленькая девочка на матраце/ Мертва. Как много их перебывало на ней/ Взвод, а может и рота?*» Але такія, як Салжаніцын, былі хутчэй рэдкімі выключэннямі; яго таварышы, як правіла, лічылі згвалтаванне справай легітымнай. Калі савецкія войскі прасунуліся ўглыб Германіі, у загадзе маршала Жукава было пазначана: «Гора зямлі забойцаў. Мы адпомсцім за ўсё, і наша помста будзе страшная».

На час падыходу Чырвонай Арміі да Берліна яе рэпутацыя бязлітаснага мсціўцы, узмоцненая нацысцкай прапагандай, увo запужала нямецкае насельніцтва, і мноства людзей ратавалася ўцёкамі. Хоць у траўні безнадзейны супраціў немцаў спыніўся, пакуты нямецкіх жанчын не скончыліся. Колькі ўсяго немак былі згвалчаныя? Можна толькі гадаць, але яны складаюць значны працэнт ад тых 15 мільёнаў жанчын, якія жылі ў савецкай зоне акупацыі ці былі выгнаныя з усходніх рэгіёнаў Германіі. Пра маштабы гвалтаванняў можна меркаваць па тым факце, што ў перыяд 1945–1948 гадоў штогод прыкладна 2 мільёны немак рабілі нелегальныя аборты. Толькі ўзімку 1946-47 гадоў савецкія ўлады, заклапочаныя распаўсюджваннем сярод сваіх вайскоўцаў венерычных захворванняў, увялі сур'ёзныя пакаранні для салдат ва Усходняй Германіі за гэткае братанне з ворагам.

Савецкія салдаты разглядалі гвалтаванне, якое часцяком здзяйснялі на вачах мужа і сям'і жанчыны, як належны чын абразы нямецкай нацыі, якая лічыла славянаў за ніжэйшую расу і забараняла з імі сексуальныя кантакты. Гвалтаванні прынялі такія маштабы і праз звыклае п'янства расійскіх салдатаў, але найважнейшым аказалася абурэнне пры сустрэчы з адносна высокім дабрабытам немцаў.

Падкрэслены Э.Біварам факт, што савецкія войскі гвалцілі не толькі нямецкіх жанчын, але таксама і ахвяраў нацызму, нядаўна вызваленых з канцэнтрацыйных лагераў, вымушае меркаваць, што сексуальны гвалт часцяком быў неразборлівы, хоць рускіх ці польскіх жанчын было згвалчана нашмат меней, калі вызвалялі іх родныя мясціны, чым завяваных нямецкіх жанчын. Габрэйкі таксама неабавязкова разглядаліся савецкімі салдатамі як ахвяры нацыстаў. Савецкія камісары рэквізавалі нямецкія канцлагеры, каб змяшчаць там палітвязняў, сярод якіх былі і ўласныя «класавыя ворагі», а таксама нацысцкія чыноўнікі, ваеннапалонныя афіцэры, падазроныя асобы з цывільнага насельніцтва, і таму стаўленне да былых лагернікаў, мякка кажучы, не мела сентыментаў.

Што тычыцца мільёнаў савецкіх палонных ці забраных у Германію на прымусовую працу славянаў, якім удалося перажыць нацысцкі рэжым, дык тыя, каго не пакаралі смерцю як здраднікаў і не адправілі ў ГУЛАГ, маглі лічыць сябе шчаслівіцамі. Да жанчын, якія былі сярод вязняў, ставіліся, відаць, не лепш, чым да немак, а можа нават і горш.

Гвалтаванне Германіі пакінула пасля сябе не лепшую спадчыну. Яно прычынілася да непапулярнасці камуністычнага рэжыму ва Усходняй Германіі. Самі ахвяры атрымалі цяжкую траўму: нямецкія жанчыны ваеннага пакалення ўсё яшчэ называюць вядомы ваенны мемарыял палеглых салдат Чырвонай Арміі ў Берліне «Магілай Невядомага Гвалтаўніка».

Гэты артыкул англійская газета надрукавала, каб пазнаёміць свайго чытача з новым даследаваннем гісторыка Э.Бівара, прысвечаным узяццю Берліна ў 1945 годзе савецкімі войскамі…

==============================



STATE OF ILLINOIS

EXECUTIVE DEPARTMENT

Proclamation

WHEREAS, on March 25,1918, the Belarusian Democratic Republic was proclaimed; and

WHEREAS, Belarus has courageously struggled for independence for more than 50 years; and

WHEREAS, Belarusian Americans have played a significant part in the progress of Illinois and have proudly shared their culture, heritage, and talents with our state; and

WHEREAS, events are being held in the Belarusian community to commemorate the 84th anniversary of Belarusian independence;

THEREFORE, I, George H. Ryan, Governor of the State of Illinois, proclaim March 25, 2002, as BELARUSIAN INDEPENDENCE DAY in Illinois.

In Witness Whereof, I have hereunto set my hand and caused the Great Seal of the State of Illinois to be affixed.

Done at the Capitol, in the City of Springfield, this FIRST day of FEBRUARY, in the Year of Our Lord two thousand and TWO, and of the State of Illinois the one hundred and EIGHTY-FOURTH

Jesse White
SECRETARY OF STATE

George H Ryan
GOVERNOR

## ЗАЯВА

### АД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" ДА СЯБРОЎ БАЗА, ПРЫХІЛЬНІКАЎ ДЫ ПАДПІСЧЫКАЎ

Дарагія сябры! Як Вы заўважылі, а лісты да нас былі довадам таму — газэта "Беларус" нейкі час не выходзіла. У 50-ці гадовым стажы "Беларуса" быў гэта ня першы вымушаны перапынак. Гэтым разам застой-перапынак быў выкліканы прычынай фінансавай насамперш — трэба было расплаціцца з запазычанасьцяй, дапасавацца да новае тэхнічна-адміністрацыйнае рэальнасьці ды ашацаваць нашую пісацка-пісьменьніцкую базу. Не забывайма, што ні піянераў газэты, ні шматлікіх іх наступнікаў ужо няма, газэта блізіцца да 500 нумару ды жыцьцё беларускае крочыць наперад.

Дык вось! З задавальненьнем паведамляем, што пэрыяд затрымкі газэты перажыты. Неўзабаве адновіцца выданьне "Беларуса" з памаладзеўшай рэдакцыяй, у адноўленым стане, з улучаным у газэту бюлетэнем "Весткі й Паведамленьні".

Праўда, мусім адразу выказаць папярэджаньне — калі мы ў Нью Ёрку памаладзілі рэдакцыю, знайшліся маладыя рэдактары, якія ўзялі на сябе адказнасьць вядзеньня адзінага воргану-люстра беларускае дзейнасьці ў дыяспары — фінансавая адказнасьць за выданьне газэты ляжыць на Беларускай грамадзкасьці. Выдаўцы й супрацоўнікі чакаюць ад Вас — грамады — фінансавага высілку, каб сфармаваць Фонд "Беларуса" ды забясьпечыць газэце жывучасьць. Падтрымкі гэтае ад грамадзтва мы чакаем неадкладна.

Плянуем выдаваць газэту месячна, як і раней, і дзеля гэтага заклікаем асяродкі й прыватных сяброў дасылаць нам хроніку, агляды беларускае дзейнасьці й артыкулы.

****************************************************

# А што на кніжнай палічцы?

**Мае маскоўскія госці былі вельмі здзіўлены, калі завіталі ў некаькі гродзенскіх кніжных крамаў з тым, каб набыць сабе памятныя падарункі – беларускія кнігі. На жаль, тое, што давялося пабачыць, насамрэч разачаравала іх. Амаль усе паліцы нашых кнігарняў запоўнены расійскімі выданнямі . Я тлумачыла сябрам, што так у нас склалася даўно, але яны так нічога і не зразумелі.**

Сапраўды, у нашых кнігарнях каля 90% усіх кніг – гэта расійскія выданні. Быццам мы і не краіна самастойная, а так – нешта незразумелае. Хтосьці пацісне плячыма, маўляў, расійскія кнігі і лепшыя, і прыгажэйшыя. На першы погляд выбар кніг вялікі, проста вочы разбягаюцца. Энцыклапедыі, дапаможнікі, даведнікі, кнігі па медыцыне, юрыспрудэнцыі, хіміі, філасофіі, псіхалогіі. Прыглядзімся ўважлівей.

Перабіраючы кніжныя навінкі, можна падумаць, што ўсе мы раптоўна сталі магамі, йогамі, карацістамі і садаводамі-аматарамі. Цяжка сказаць, наколькі яны папулярныя ў чытача, але факт тое, што іх сапраўды ёсць магчымасць набыць.

Прыпынімся каля паліцы з амурнымі раманамі і дэтэктывамі. Гэтыя кнігі цяпер найлепш прадаюцца. І людзі купляюць іх, запаўняючы свой вольны час тым, што з галавой акунаюцца ў меладраматычныя, авантурныя, крымінальныя пры годы, часам, пустыя і недарэчныя. Але такія кнігі лягка чытаюцца, лягка забываюцца, ды і каштуюць не так дорага – ад 1200 да 3600 рублёў, у залежнасці ад якасці вокладкі.

У краме можна знайсці поўныя зборы твораў С. Кінга, С. Шэлдан ці Д. Сціл. Аматары больш сур'езных кніг могуць набыць творы рускіх і замежных класікаў, але каштуюць яны амаль у два разы больш за «дамскія» раманы, фантастыку і дэтэктывы – ад 5500 рублёў. І доўга будзе думаць бедны студэнт, трымаючы ў кулаку сваю грашовую стыпендыю – купіць яму томік Гогаля ці патрацiць гэтыя грошы на каўбасу... (прынамсі, байкі пра тое, што студэнты жывуць толькі «духоўнай ежай», не маюць пад сабой падстаў).

Крыўдна, што ў беларускай дзяржаве нельга набыць у кнігарні Пруста, Камю, Хэменгуэя, Шэкспіра па-беларуску. Мы адчуваем іх для сябе на рускай мове і знаемімся з сусветнай класікай праз пасярэдніка – чужую мову. Да таго ж, мы плацім грошы замежнаму вытворцу, а беларускія выдавецтвы вымушаны зачыняцца з-за недахопу сродкаў. Крыўдна. Зрэшты, даволі толькі паглядзець на беларускія паліцы ў кнігарні...

Што датычыцца беларускіх кніг ці падручнікаў, то іх нават не заўседы заўважыш, у кнігарні, бо стаяць яны, звычайна, у самым далекім і цемным кутку. На іх няма попыту, іх няма ў школьнай праграме, на іх выданне дзяржава не дае грошай... Няўжо такія кнігі нікому не патрэбныя? Наогул, ці ўбачаць яны свет, калі не праз дзесяць гадоў, хаця б, праз сорак... Гэта там, «у іх,» выдавецтва кніг – гэта бізнес... У нас – праца марная і дарагая.

Амаль адзінае, што можна набыць з кніг беларускага выдавецтва – гэта дапаможнікі для школьнікаў і абітурыентаў. Звяртаю ўвагу на беларускую дзіцячую літаратуру. У параўнанні з расійскімі прыгожымі, рознакаляровымі энцыклапедыямі і казкамі яны глядзяцца шэрымі і непрывабнымі. Як вучыць дзяцей мове, як рыхтаваць іх да школы, як выхоўваць маленькіх грамадзян? Нямногія бацькі могуць купіць сваім дзецям велізарную кнігу казак з малюнкамі за 8 – 12 тысяч рублёў.

Сумна...Сумна, што культура і літаратура залежаць ад нашага нявыхаванага попыту. Сумна, што выдавецтвы друкуюць толькі тое, што можа прынесці даход. І справа не ў немагчымасці нашай кніжнай прадукцыі скласці канкурэнцыю вядомым расійскім выданням. Справа не ў цане і якасці. Мы прывыклі купляць чужыя кнігі, слухаць чужыя песні, верыць ў чужыя мары...

Тацццяна ПугоЎская (Біржа інф.)

# АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ЦАРКВА ПЕРАХОДЗІЦЬ У НАСТУП

Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква, якая да нядаўняга часу дзейнічала толькі на эміграцыі, паступова пераносіць сваю дзейнасьць на Бацькаўшчыну.

Да сёньняшняга часу ў Беларусі ўлады адмаўляюцца рэгістраваць прыходы БАПЦ. Аднак вернікі і некалькі сьвятароў, нягледзячы на рэпрэсіі, працягваюць змагацца за права маліцца на роднай мове за свой народ і дзяржаву. Нядаўна, кіраўнік справамі БАПЦ пратаіерэй Іван Спасюк распаўсюдзіў інфармацыю пра дамову з Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой Кіеўскага Патрыярхату аб бясплатным навучаньні беларускіх хлопцаў у духоўных навучальных установах на Ўкраіне. Чакаецца, што вучыцца паедзе 20 чалавек.

Пратаіерэй І. Спасюк сьцьвярджае, што сёньня на Беларусі «налічваецца каля 100 пакуль не зарэгістраваных прыходаў БАПЦ». Лічба ўнушальная, але, магчыма, перабольшаная. Вядома, што ёсьць шмат праваслаўных сьвятароў, якія сымпатызуюць БАПЦ, але не рашаюцца перайсьці пад яе юрысдыкцыю з РПЦ. Тым больш, што БАПЦ ня мае афіцыйнага статуса ў Беларусі, а за друкаваньне матэрыялаў пра яе ў незалежных СМІ былі й застаюцца праблемы. Аднак выглядае так, што БАПЦ пераходзіць у наступ. І як бы не супраціўлялася рэгістрацыі яе прыходаў улада, яна або адступіць, або ў будучыні сутыкнецца з праблемай моцнай падпольнай Царквы, аўтарытэт і уплыў якой будуць расьці.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Бі сваіх!..

Магчыма, вопытныя псіхолагі і знойдуць нейкія вельмі глыбокія і пераканаўчыя апраўданні даўняму варварскаму лозунгу “Бі сваіх, каб чужыя баяліся!”, а вось я, скажу шчыра, проста баюся яго і са здзіўленнем гляджу, як доўга ён жыве ў свядомасці нашага грамадства і як нахабна многія дзесяцігоддзі калечыць людскія душы. У гэтым звыклым і для сённяшняй будзённасці закліку заўсёды прысутнічае для мяне адна прымітыўная і, даруйце мне грубасць, бандыцкая мэта — напалохаць іншых, падначаліць нечую волю сваім інтарэсам, тупой уладзе сілы. І словы пра чужых тут, як паказвае рэальны вопыт, — так, для маскіроўкі. Задача якраз найчасцей датычыць “сваіх” — каб яны баяліся, каб у іх не ўзнікала жаданне пярэчыць “дужаму”, не згаджацца з ім. Урэшце рэшт, да “чужых” можна і не дабрацца, яны ці далёка, ці высока, а вось “свае” — тут, пад рукой, ды яшчэ і не гатовы да каварнага ўдару. Д'ябальская задума спрацоўвае наколькі нечакана, настолькі і эфектыўна. Галоўнае — выбраць прыкметную асобу і абрынуць на яе самыя неверагодныя абвінавачанні...

Зусім нядаўна, усяго некалькі месяцаў назад, своеасаблівымі “маякамі” на нашай шэрай эканамічнай прасторы агульнапрызнана свяціліся славуты Мінскі трактарны завод і шырока вядомы “Атлант”. Пра іх пісалі самыя “чэсныя” журналісты, іх ставілі ў прыклад у афіцыйных дакладах, іх прадукцыя годна пераcягала межы многіх краін свету. Пра Беларускую чыгунку я ўжо і не кажу — яе кіраўніка за надзвычай кароткі час узнеслі на такія дзяржаўныя вышыні, што можна было толькі радавацца, якіх рэдкіх самародкаў нараджае наша не надта ўрадлівая зямля. І вось, як гром сярод яснага неба, — дырэктараў заводаў пасадзілі за краты, а начальніка чыгункі абвінавачваюць ледзь не ў смяротных грахах. Унікліўы Камітэт дзяржаўнага кантролю і ўсемагутная Пракуратура аб'явілі іх подлымі злачынцамі, а даверлівыя, даведзеныя да адчаю беднасцю і бесперспектыўнасцю жыцця грамадзяне з нецярплівасцю чакаюць паказальнай кары. З высакародным гневам гавораць пра ўчарашніх “флагманаў” як пра жулікаў і злодзеяў тыя самыя чыноўнікі, што зусім нядаўна стаялі побач з імі на ўрачыстых мітынгах, а то і сядзелі за адным святочным сталом. Слухаеш іх — і сэрца напаўняецца зразумелым абурэннем, але, між тым, сама сабою падкрадваецца і неадчэпная думка: а чаму ж яны, такія прынцыповыя і разумныя, не бачылі злачынстваў раней, чаму так чакалі грознай каманды “Бі”? А кантралёры — іх жа ў нас так многа — чаму дасюль не знаходзілі ніякіх слядоў махінацый і злоўжыванняў, яны ж правяралі і МТЗ, і “Атлант”, і чыгунку не адзін і не два разы, а ледзь не штомесяца? Можа, яны недастаткова кампетэнтныя і вопытныя? Дык тады мяняць іх трэба. Ці, можа, яны проста “накаплівалі матэрыялы”? Дык тады дзе тут дзяржаўны падыход і элементарная прыстойнасць? Няўжо жаданне гучна далажыць важней за магчымасць прадухіліць парушэнні?..

Ну але ладна — кантралёры прыйшлі ды пайшлі, ім няма калі, пры іхняй штодзённай загружанасці, грунтоўна ва ўсім разбірацца. Але ж побач з М.Лявонавым, Л.Калугіным, В.Рахманько гадамі, дзесяцігоддзямі жылі і працавалі сумленныя людзі, паплечнікі, сябры. Яны што — нічога не бачылі, ні аб чым не здагадваліся? Урэшце рэшт “жулікі” не самі сябе садзілі ў высокія крэслы, нехта іх вылучаў, нехта за іх ручаўся. Чаго ж яны маўчаць? Баяцца, што заўтра грозны голас “Бі!” даляціць і да іх?..

Я ўсёй душою, дзвюма рукамі галасую за самую жорсткую барацьбу з карупцыяй і злоўжываннем уладай. Тут сумненняў быць не можа, і паслаблення рабіць не варта. Але дрэнна, калі нашы карныя органы праводзяць сваю строгую лінію непаслядоўна, як бы выбарачна. Як паведамляюць сродкі масавай інфармацыі, Л.Калугіну і М.Лявонаву прад'яўляюць прэтэнзіі за нанесеныя Рэспубліцы Беларусь страты ў 4-5 мільёнаў даляраў. А вось кіраўнік краіны мінулай восенню казаў, што двое былых высокіх чыноўнікаў “укралі” ў Беларусі ажно 42 мільёны даляраў. І тым не менш яны чамусьці гуляюць на волі, і ні Камітэт дзяржаўнага кантролю, ні Генеральны пракурор не б'юць у званы з гэтай прычыны. Што — усё-такі не ўсіх “сваіх” можна біць, ёсць і непадсудныя? А як тады быць са справядлівасцю і законапаслухмянасцю?

Вядома, калі б'юць “сваіх”, ды яшчэ безразважна і бязлітасна, азіраюцца і “чужыя”. Не так даўно я быў у Маскве і сустракаўся з ветэранамі-вайскоўцамі, якія ў свой час ваявалі на нашай зямлі і даўно і шчыра любяць Беларусь. Дык вось яны прызналіся, што іхні поўны давер да нашай улады пахіснуўся пасля таго, як яны пабачылі па тэлевізары Героя Сацыялістычнай працы, былога партызана Васіля Канстанцінавіча Старавойтава ў жалезнай клетцы на судзе. “Навошта так з такім чалавекам?” — пыталіся яны ў мяне, і я не мог ім нічога ўцямнага адказаць. “Чужых” старавойтаўская клетка не столькі напалохала, колькі ашаламіла непатрэбнай жорсткасцю і тупым самаўладствам. Яна прымусіла іх задумацца і аб прымальнасці і апраўданасці падобных метадаў дзяржаўнага кіраўніцтва, якія мы, на жаль, паслухмяна церпім. І аб нашай агульнай грамадзянскай сталасці і мужнасці. Можа, і нам усім варта задумацца, чаму так доўга жыве ў нашым асяродку нецывілізаваны і неразумны лозунг “Бі сваіх, каб чужыя баяліся!” Можа, ажно залішне “набілі” ўжо мы сваіх, асабліва ў чорныя трыццатыя гады мінулага стагоддзя? І, можа, прыйшоў час да ўсіх — сваіх і чужых — ставіцца аднолькава справядліва, у адпаведнасці з законамі, нікому да суда не навешваючы паганы ярлык злачынца? Ад гэтага, як мне здаецца, будзе куды больш карысці, чым ад бясконцых пошукаў “чужых сярод сваіх” і жадання зноў і зноў прадэманстраваць сляпое права сілы...

Генадзь БУРАЎКІН (Бел. Час)

==========================================

# Мальдзіс у Карлавым універсітэце

19 лютага ў пражскім Карлавым універсітэце адбылася лекцыя знакамітага беларусіста прафесара Адама Мальдзіса. Лекцыя мела назву «Беларуская прысутнасць у свеце». Гэта была першая лекцыя новага курсу «Уводзіны ў беларусістыку», які мае даць імпульс да адкрыцця ў наступным навучальным годзе самастойнай спецыяльнасці «Беларусістыка».

Лекцыя выклікала вялікую цікавасць як у студэнтаў універсітэту, так і ў выкладчыкаў і навукоўцаў. Лекцыі гэтага курсу будуць адбывацца штотыднёва, і наступная будзе прысвечана фенomeну Віцебску ў 1916-1926 гадах. Чытаць яе будзе Сяргей Харэўскі.

****************************************

# Закон аб грамадзянстве

На веснавой сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі будзе разгледжана новая рэдакцыя закону «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь».

Летась беларускае грамадзянства было прадастаўлена 21 тысячы асобам. За гэты ж перыяд 274 чалавекі страцілі грамадзянства Беларусі. У новай рэдакцыі закона грамадзянам Беларусі па-ранейшаму забаронена мець другое грамадзянства. Грамадзянства іншай краіны, атрыманае без выхаду з грамадзянства Беларусі, не будзе прызнавацца беларускім бокам.

==========================================

**Выдавецкі Фонд нашае газэты просіць не забывацца пра яго патрэбы!**

## *Нам Пішуць...*

# МЕНСКАЯ КАЛЬВАРЫЯ
## МЯНЯЕ СВАЁ АБЛІЧЧА

Многія дзяржавы маюць свае магілы-нэкраполі на якіх хаваюць, даглядаюць і шануюць памяць сваіх вялікіх патрыётаў... Удзячныя грамадзяне на магілы прыносяць кветкі ў дзень нараджэньня і сьмерці, запальваюць сьвечкі. Такія магілы-нэкраполі ёсьць у Маскве /Новадзевічая/, у Вільні /Росса/, у Варшаве /Павонзкі/. У Беларусі чагосьць падобнага няма. Шкода. Варта аб гэтым падумаць і заснаваць могілкі-нэкраполі для заслужаных беларусаў. А такія людзі былі, ёсьць і будуць.

Ёсьць у Менску старыя, дзьвесьце гадовыя, памятныя рыма-каталіцкія могілкі пад назовам Кальварыя. На гэтых могілках спачываюць астаткі вядомых беларуска-польскіх сем'яў павязаных з Менскам і Беларусьсю, як: Ваньковічаў, Віткевічаў, Гарватаў, Дарэўскіх-Вэрыгаў, Доўнараў, Храптовічаў, Чачотаў і т. д.

У 1838-41 гадох на Кальварыі быў пабудаваны магілкавы касьцёл пад назовам Узьвеดзеньне Сьвятога Крыжа. У 30-х гадох мінулага стагодзьдзя касьцёл быў закрыты атэістамі-камуністамі і аддадзены для арцелі мастакоў. Гэта яго (касьцёл) і ўратавала ад зьнішчэньня і разборкі. Потым касьцёл уратаваў... папа Ян Павел II, які ў 80-х гадох мінулага стагодзьдзя зьвярнуўся да Савецкіх уладаў з просьбай, каб касьцёл вярнулі католікам. Касьцёл вярнулі, і гэта была першая, афіцыйна зарэестравана каталіцкая парафія ў Менску.

Кальварыйскія Могілкі не запісаны ў архіў Гістарычных і Культурных вартасьцяў і дзеля гэтага ня ёсьць пад ахаронай дзяржавы. Толькі касьцёл на могілках і галоўная брама ўнесены ў сьпіс гістарычнай спадчыны.

Могілкі знаходзяцца пад уладай Менскага камбіната дзеля Пагрэбных Патрэбаў, які хварэе на недастатак фінансаў для добрага ўтрыманьня могілкаў. Пахавіны на могілках "спыніліся" ў 1967 годзе.

У дасавецкіх часох могілкі былі добра ўтрыманыя, былі прыгожымі. Было там многа сямейных капліцаў, нагробнікаў, памятнікаў. Амаль усё гэта было зруйнавана, разабрана бязбожнікамі ў 20-я і 30-я гады мінулага стагодзьдзя.

У 60-70 гадох могілкі былі далей нішчаны. Вывозілі што яшчэ засталося і можна было вывезьці. Прафанавалі магілы, скідалі крыжы, помнікі, хуліганы шукалі золата...

Дакладна ня ведама, што сталася з магіламі аўстрыйскіх жаўнераў, якія загінулі падчас Першай сусьветнай вайны і былі пахаваны на "Аўстрыйскай горцы" на Кальварыі.

"Прапаў" памятнік Юзэфы Патоцкай, патомкі ведамага гэтмана Яна Патоцкага. Польская амбасада ў Менску зрабіла пратэст да беларускіх органаў са спадзяваньнем, што спыніцца далейшае нішчэньне памятнікаў на Кальварыі, якія там яшчэ засталіся.

Хоць Кальварыя афіцыйна была закрытай для новых пахаваньняў у 1967 годзе, апошнім часам паявіліся новыя магілы і памятнікі. Ад 1997 году на Кальварыі зьявілася больш чым дзьве тысячы новых магіл. Дзеля чаго гэта робіцца?..

Для адміністрацыі Кальварыі новыя магілы прыносяць не малы даход, які патрэбны для ўтрыманьня могілкаў, кашэньня травы, маляваньня платоў і т.п. А новыя магілы на Кальварыі каштуюць да 400 даляраў ад магілы. Аднак знаходзяцца людзі, якія хочуць спачыць на такіх прэстыжна-гістарычных могілках, ня гледзячы на вялікія кошты...

Беларускія патрыёты ў Беларусі занепакоены лёсам Кальварыі. Каб захаваць гэтыя гістарычна-ўнікальныя могілкі для прышласьці, шукаюць яны падтрымкі ў... Польшчы. Недзяржаўная арганізацыя пад назовам 'Беларускае Таварыства Ахароны Спадчыны' зьвярнулася ў ліпені 2001 г. да польскага віцэ-міністра культуры Станіслава Жураўскага з просьбай "...памагчы ў справе захаваньня ўнікальнай спадчыны, якая мае вялікую важнасьць у гісторыі народаў Беларусі і Польшчы..." А польская амбасада ў Менску паслала асобны ліст у справе Кальварыі ў Міністэрства Культуры ў Польшчы. Пакуль не было адказу.

А ў міжчасе аблічча кальварыйскіх могілкаў беспаваротна мяняецца, мяняецца не на лепшае... Напісы на старых і на новых памятніках не ў беларускай, а ў чужых мовах. Новыя памятнікі ня вельмі гарманізуюцца з ацалелымі старымі памятнікамі ані канструкцыяй, ані колерамі, ані з акружаючай могілкавай архітэктурай.

*М. Швэдзюк*, Англія.

=======================================

Паважаны Сп. Рэдактар!

У ангельскім каталіцкім тыднёвіку "The Universe" быў зьмешчаны артыкул пра пратэст каталікоў у Менску супраць пастановы закрыць тыднёвую радыёпраграму "Голас душы".

Паводле слоў а. Уладыслава Завальнюка, пробашча касьцёла сьв. Сымона і Анны, хрысьціяне ў шасьці правінцыях Беларусі маліліся слухаючы радыёперадачу ў роднай мове.

Рэдакцыю ангельскага часопісу зьдзівіла, чаму рэлігійная радыёперадача пачатая ў 1993 г., якую слухаюць больш паўмільёна слухачоў, раптоўна закрылі. Паводле прэсы, гэта сталася таму, што праграма канчалася адсьпяваньнем рэлігійнага гімну "Магутны Божа", які ўрад лічыць гімнам апазыцыі.

Мы тут на эміграцыі, як праваслаўныя так і каталікі ў сваіх прыходах канец Богаслужбаў адзначаем сьпевам малітвы-гімна "Магутны Божа". Гэты гімн выражае нашую любоў да далёкай Бацькаўшчыны ды просьбу да Бога, каб Ён захаваў і абараніў незалежнасьць беларускага народу.

На Захадзе нам не зразумела, чаму менскі ўрад баіцца апазыцыі. Без апазыцыі ня можа быць сапраўднай дэмакратыі. Без дэмакратыі — запаноўвае дыктатура...

Нам трэба маліцца Богу, каб Ён дапамог зьмяніць такую грэшную пастанову і каб у эфір вярнулася так дарагая рэлігійная радыёпраграма "Голас душы"...

Сыльвэстар Будкевіч, Англія

=======================================

# Курапаты

**Якім быць мемарыялу народнай памяці? Курапаты -- высокая духоўная дамінанта ў нашай грамадзянскай самасьвядомасьці.**

Сімвал нечуваных пакут народа, страціўшага лепшых сваіх сыноў у часы жудасных рэпрэсій сталіншчыны мінулага стагоддзя. Сімвал мужнасці і стойкасці сённяшніх патрыётаў Беларусі, якія ўжо напачатку трэцяга тысячагоддзя ўратавалі вядомае ўсяму свету месца масавых пахаванняў бязвінных ахвяр ад руйнавання пад выглядам пракладкі сучаснай магістралі.

На маладых людзей -- вартавых Курапат -- кідалі амапаўцаў з дубінкамі, будаўнікоў з бульдозерамі, хуліганаў з кулакамі. Іх засыпалі пяском. Але яны не адступілі і мірнай сілай -- сілай духу -- перамаглі гвалт, здзек, абразы і дзічэзную хлусню, якой палівалі іх з рупараў афіцыйнай прапаганды.

Адвага і самаахвярнасць валанцёраў, якія не пакінулі сваю пачэсную вахту ні ў 30-градусны мароз, ні ў слякатнае разводдзе, ахоўваючы спакой загінуўшых, адкрыла вочы на праўду многім з тых, хто да гэтага нават амаль нічога не ведаў пра Курапаты ці чуў бессаромны паклёп.

Цяпер, калі Генеральная пракуратура краіны, нарэшце, фактычна пацвердзіла на падставе неабвержных доказаў высновы ранейшых дзяржаўных камісій і прызнала гэтае лясное ўрочышча месцам масавых расстрэлаў грамадзян у 1937--1941 гг., злосная выдумка пра "выдумку Пазьняка" лопнула, як мыльны пухір. Цяпер адкрываецца доўгачаканая перспектыва паразумення ў грамадстве і магчымасць мемарыялізацыі гістарычна-культурнага помніка.

Дзеля гэтай высакароднай мэты на працягу некалькі месяцаў напружана і творча працуюць сябры нефармальных грамадскіх ініцыятыў "За ўратаванне мемарыялу Курапаты" і "Моладзь у абарону Курапатаў". Нашы чытачы ўжо ведаюць аб іх супольным праекце, якім прадугледжваецца забеспячэнне з боку дзяржавы ахоўнага статусу Нацыянальнага некропаля, упарадкаванне тэрыторыі ўрочышча з беражлівым захаваннем ландшафту і ямін-магіл, устаноўка годнага помніка ў памяць пакутнікаў.

Па думцы распрацоўшчыкаў канцэпцыі, мемарыял, які тут паўстане, павінен мець характар і статус народнага, а ўсе рашэнні па яго стварэнні прымацца з улікам публічнага абмеркавання, думкі шырокай грамадскасці.

Як жа спраўдзіць маштабную задумку? Розныя меркаванні гучалі на гэты конт на прэс-канферэнцыі. Але выяўляецца разуменне: гэта магчыма зрабіць толькі агульнымі намаганнямі, **яднаннем высілкаў з боку грамадскіх і дзяржаўных структур, усіх патрыятычных сіл, нераўнадушных людзей у нашай краіне і замежжы...**

Якім уяўляецца вам, шаноўныя сябры, будучы мемарыял? Як лепш, на ваша меркаванне, увасобіць наша асуджэнне таталітарызму супраць уласнага народа? Што, Вы лічыце, трэба пры гэтым зрабіць абавязкова і чаго ні ў якім разе нельга рабіць? Якімі бачацца Вам крыніцы фінансавання гэтага маштабнага праекта, дзеля рэалізацыі якога плануецца абвясціць міжнародны конкурс? Ці ведаеце Вы гісторыю родных мясцін, дзе ў свой час пракацілася бязлітаснае кола рэпрэсій, і што можаце распавесці аб ушанаванні памяці землякоў?

Пішыце, дарагія, аб сваіх думках, пачуццях і прапановах у рэдакцыю "Народнай волі" ці непасрэдна распрацоўшчыкам праекта па адрасе: 220030, Мінск, плошча Свабоды, 23, ГА "Беларуская арганізацыя працоўных жанчын". Тэлефон: (017) 227-04-54, факс 227-13-16. Тэрмін абмеркавання -- два месяцы.

Давайце разам, усім грамадствам зробім крок насустрач адно аднаму і, аб'яднаўшыся, створым мемарыял Народнай Памяці. Каб было дзе памаліцца за душы замучаных продкаў, пакланіцца ім, запаліць свечкі ля крыжоў, пакласці кветкі. Каб нікалі не паўтарыўся кляты 37-ы на шматпакутнай нашай зямлі. Каб свяціла над ёй, над галовамі дзяцей, унукаў нашых і іх нашчадкаў сонца дабрыні і любові, сонца вольнай і шчаснай Маці-Беларусі.

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА. (Н. В.)

# У "Беларускім кнігазборы" -- Цётка

**Алаіза Пашкевіч, якая ўзяла такі незвычайны псеўданім -- Цётка, -- сапраўды легендарная постаць у гісторыі нашай літаратуры. Яе вершы -- гэта жывое, па яе выразу, "пламеньне", высокі агонь самой душы. Яна не прыйшла, а ўварвалася ў беларускую літаратуру. Гэта было на зары мінулага стагоддзя, роўна сто гадоў назад (першы яе верш датаваны 1902 годам). У рэвалюцыйныя 1905—1907 гады крылатыя радкі вершаў Алаізы Пашкевіч разляталіся па ўсёй Беларусі, імі зачытваліся ўсе, набатным звонам будзілі яны беларуса станавіцца гаспадаром сваёй зямлі, сваёй долі. "Веру, братцы, людзьмі станем..." – не стамлялася паўтараць паэтэса.**

У аднатомнік выбраных твораў Цёткі, што нядаўна выйшаў у папулярнай серыі "Беларускі кнігазбор", уключаны, па сутнасці, усе яе мастацкія творы -- вершы, апавяданні, нарысы падарожжаў па краінах Еўропы, гарачая публіцыстыка, лісты да дзеячаў беларускай культуры. Упершыню падаюцца ў кнізе складзеныя ў 1906 годзе Алаізай Пашкевіч чытанкі для дзяцей -- "Першае чытанне для дзетак беларусаў", "Гасцінец для малых дзяцей" і творы з "Беларускага лемантара". Таксама ўпершыню публікуюцца напісаныя паэтэсай у бурны 1905 год рэвалюцыйныя ўлёткі, звернутыя непасрэдна да народа, лістоўкі, якія вельмі пераклікаюцца з выпускамі "Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага... Выдатна дамалёўваюць прывабны партрэт Алаізы Пашкевіч, сапраўднай будзіцелькі нацыі, успаміны сучаснікаў, а таксама выказванні дзеячаў беларускай літаратуры пра незвычайную творчасць паэтэсы-рэвалюцыянеркі, якая стаяла ля самых вытокаў сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі...

=======================================

# Падарунак Мірскаму замку

Жыхарка Лондану Марыя Святаполк-Мірская са старадаўняга беларускага роду Святаполк-Мірскіх падарыла Мірскаму замку, які калісьці быў у валоданні ейных продкаў, карціну сваёй маці, княгіні Надзеі Святаполк-Мірскай пад назвай «Зімовы пейзаж». Карціна напісаная паводле ўспамінаў пра дзіцячыя гады, праведзеныя ў Міры. Найбліжэйшым часам карціну прывязуць у Беларусь. Мяркуецца, што яна будзе выстаўленая ў адной з залаў замку.

=======================================

**ТАБЛІЦА МЭДАЛЁЎ**

| Краіна | З | С | Б | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Germany | 12 | 16 | 7 | 35 |
| United States | 10 | 13 | 11 | 34 |
| Norway | 11 | 7 | 6 | 24 |
| Canada | 6 | 3 | 8 | 17 |
| Russia | 6 | 6 | 4 | 16 |
| Austria | 2 | 4 | 10 | 16 |
| Italy | 4 | 4 | 4 | 12 |
| France | 4 | 5 | 2 | 11 |
| Switzerland | 3 | 2 | 6 | 11 |
| Netherlands | 3 | 5 | 0 | 8 |
| China | 2 | 2 | 4 | 8 |
| Finland | 4 | 2 | 1 | 7 |
| Sweden | 0 | 2 | 4 | 6 |
| Croatia | 3 | 1 | 0 | 4 |
| South Korea | 2 | 2 | 0 | 4 |
| Estonia | 1 | 1 | 1 | 3 |
| Britain | 1 | 0 | 2 | 3 |
| Bulgaria | 0 | 1 | 2 | 3 |
| Australia | 2 | 0 | 0 | 2 |
| Spain | 2 | 0 | 0 | 2 |
| Czech Republic | 1 | 0 | 1 | 2 |
| Japan | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Poland | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Belarus | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Slovenia | 0 | 0 | 1 | 1 |






# З адным мэдалём...

З адным бронзавым мэдалём фрыстайліста Аляксея Грышына вяртаюцца з Salt Lake City беларускія алімпійцы. 24 лютага, у заключны дзень Алімпіяды, у гонцы на 30 кілямэтраў клясычным стылем найлепшая зь беларускіх лыжніц Сьвятлана Нагейкіна заняла толькі 13-е месца. Натальля Зяцікава фінішавала 31-й, Ірына Скрыпнік - 32-й. Алімпійскай чэмпіёнкай стала італьянка Габрыэла Паруцы. Расейка Ларыса Лазуціна, што прыйшла першаю, не атрымала залатога мэдаля, бо пасьляфінішны допінг-тэст паказаў станоўчы вынік.